БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 3 (13535)

13 — 19 студзеня 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ



ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

*Іншоў прывід*

## ЗАІМШЭЛЫ БАЛЬШАВІЗМ

Я не з'яўляюся праціўнікам легалізацыі КПСС, пад якой бы шыльдай яна ні адрадзілася. Нават рыхтаваў выступленне пра гэта ў друку. Але пасля лістападаўскага ўстаноўчага сходу я пачаў сумнявацца ў тым, што гэтая партыя здолее стаць сапраўды парламенцкай. Але ўсё па чарзе.

Вырашыў і я падзівіцца, хто там збярэцца, хто да гэтага часу верыць у міф аб "светлай будучыні". На прыступках Палацу будаўнікоў сабралася, бадай, не больш за два тузіны людзей з антыбальшавіцкімі саматробнымі плакатамі. А на ганку — ля ўваходу, шпацыравалі, пэўна, ініцыятары сходу. Пэўная частка наведвальнікаў праходзіла цішком і моўчкі, некаторыя супыняліся, чыталі плакаты і нават уступалі ў палеміку з "дэструктыўнымі сіламі". Але калі дзе-ніДзе напалялася атмасфера, падыходзілі іншыя, больш разважлівыя, і — гармідар сціхаў. Трэба аддаць належнае ініцыятарам пікетаў, якія прыклалі нямала сіл на ўтаймаванне сваіх залішне гарачых прыхільнікаў.

А вось большая частка наведвальнікаў, пераважна людзей сталага ўзросту, аніяк не магла змірыцца з "абражальнымі" лозунгамі тыпу:"Необольшевизм не пройдет!" І тут ужо не было зразумела: ці гэта сход "розуму, гонару і сумлення", ці гэта прыдарожная піўнушка. Брыдкаслоўе, лаянка, пагрозы, абразы,— і ў асноўным, ад паважаных ветэранаў. А адзін са сталых "абаронцаў працоўных" так раз'юшыўся, што накінуўся на плакат як драпежнік, падраў яго, зламаў дручок і пайшоў з ім у штыкавую. Гаспадары сходу ледзьве ўтаймавалі яго. Дзякуй Богу, што ў хуткіх на расправу руках быў не аўтамат!

Сталыя людзі, а некаторыя і проста старыя! А паводзяць сябе як нейкія вулічныя хуліганы. Моладзь ля пікетаў трымалася значна больш дасціпна і разважна. Я ўжо не кажу аб тым, каб нехта з маладых мог таксама не вытрываць...

Пэўна гэта ўжо звычка — бесперашкодна і беспакарана, гвалтам усталёўваць свой светапогляд. І гэтыя людзі імкнуцца зноў абвясціць сябе нашымі абаронцамі!

А метады тыя ж, бальшавіцкія, тая ж самая непрымальнасць іншадумцаў, тыя ж пагрозы, якіх мы начуліся за апошнія 74 гады... Усё той жа заімшэлы бальшавізм.

Лаўрэнці Жалезнякоў.
Гомель.

Заключэнне пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў ва ўмовах немагчымасці старога саюзнага Цэнтра арганізаваць нармальнае функцыянаванне раўнапраўных узаемавыгадных эканамічных і іншых міжрэспубліканскіх сувязей — з'ява цалкам заканамерная. І калі б яна спазнілася, мы ў хуткім часе сталі б сведкамі стварэння якой-небудзь іншай садружнасці: Балтыйскай, Чарнамора-Балтыйскай, Каўказскай, Турке-

### СССР—

станскай... Проста неабходнасць заключэння дагавора аб адраджэнні агульнай эканамічнай прасторы і каардынацыі дзеянняў як унутры яе, так і за яе межамі прымусілі глаў трох дзяржаў — Беларусі, Расіі, Украіны да дзеяння некалькі хутчэй, чым іншых.

Трэба помніць, што ў старым агульнасаюзным народнагаспадарчым "механізме" БССР іграла ролю "зборачнага цэха", у якім заканчвалася большасць "вытворчых ланцужкоў", што пачыналіся ў РСФСР і УССР. Пастаўкі з гэтых рэспублік складалі больш як 85 працэнтаў агульнага ўвозу ў яе. Таму з іх спыненнем праца многіх расійскіх і ўкраінскіх працоўных калектываў станавілася б бязмэтнай, а беларускіх — немагчымай. Усе мы — сведкі таго, да чаго прывяла сённяшняя ступень парушэння міжрэспубліканскіх гаспадарчых сувязей. Таму цалкам зразумелая і спроба спыніць гэты дэструктыўны працэс шляхам заключэння дагавора аб Садружнасці.

Сумны лёс СССР і ўсіх Нова-Агароўскіх праектаў адрадзіць Саюз з Цэнтрам на чале вучыць, што ўсялякая спроба стварэння самастойных, "надрэспубліканскіх" кіраўнічых структур, як і перадача якіх-небудзь функцый гэтых структур адной з рэспублік, будзе азначаць канец Садружнасці. Таму найбольш прымальнымі вышэйшымі каардынуючымі органамі для яе ў даных умовах могуць быць Саветы прэзідэнтаў (і старшынь) Вярхоўных Саветаў, прэм'ер-міністраў (старшынь Савета Міністраў) і г.д., паседжанні якіх павінны весці па чарзе прадстаўнікі кожнай з рэспублік. Міжрэспубліканскімі могуць быць толькі арганізацыі, ствараемыя для збору і апрацоўкі інфармацыі, для каардынацыі функцыянавання сродкаў сувязі, транспарту...

Той жа сумны вопыт Нова-Агароўскіх праектаў вучыць, што рэспублікі, маючыя ў сваім саставе аўтаномныя ўтварэнні, пры падпісанні дагавора аб Садружнасці павінны ўрэгуляваць наступнае пытанне: ці жадаюць аўтаноміі ўступаць у Садружнасць, і калі так, то

### — СНД —

збіраюцца яны зрабіць гэта самі, напрамую, ці давераць зрабіць гэта рэспубліцы, у састаў якой уваходзяць. Пры гэтым тэрытарыяльныя памеры аўтаномій, колькасць іх насельніцтва і тэрміны стварэння не павінны з'яўляцца повадам для адмовы ў такім урэгуляванні. Толькі пры гэтай умове будзе захавана права нацый на самавызначэнне, а, такім чынам, ухілены адзін з повадаў узнікненняў канфліктных сітуацый. Афіцыйнае прызнанне гэтага права з'явілася б адначасова і прызнаннем права нацыянальных меньшасцей на самаабарону ў выпадку, калі абяцанне абараняць іх, абвешчанае ў артыкуле з Пагаднення, аказвалася б толькі абяцаннем.

У мэтах ухілення повадаў да міжнацыянальнага недаверу трэба выключыць з лексікону каментатараў, а тым больш адказных палітычных дзеячаў, такія выказванні, як "Садружнасць славянскіх дзяржаў", "Цюрска-славянская Садружнасць". Гэта здавалася б, "дробязь" можа, пры яе раздзіманні, перайсці ў непрыманне кімсьці Садружнасці па нацыянальнай, рэлігійнай... прычынам.

*Са сваёй званіцы*

Пажадана было б, каб у бліжэйшы час удзельнікі Пагаднення выправілі яшчэ адзін недагляд. У заяву аб стварэнні СНД укралася не зусім дакладнае сцвярджэнне, што "недальнабачная палітыка цэнтра прывяла да катастрафічнага зніжэння жыццёвага ўзроўню практычна ўсіх слаёў грамадства. На справе ж, нейкія слаі даволі паспяхова скарысталі гаспадарчую дэстабілізацыю для свайго ўзбагачэння. Таму сёння "катастрафічнае зніжэнне жыццёвага ўзроўню"назіраецца толькі ў тых, у каго адзінай крыніцай існавання з'яўляецца праца па найму, а таксама тых, хто яшчэ ці ўжо не можа працаваць. Менавіта аб гэтых слаях практычна нічога не сказана ў Пагадненні.

### —?

Для выпраўлення гэтага недагляду ўрадам краін-членаў СНД трэба было б сумесна з прафсаюзамі выпрацаваць агульныя прынцыпы аховы праў работніка па найму і забеспячэння сацыяльнай аховы непрацаздольных на ўсёй тэрыторыі СНД.

Юры Афонін,
гісторык.

*Партыі. Бег навыперадкі.*

## Партыя для непаўналетніх

Не было б Рымшы, дык быў бы хто іншы. І вось на змену самай масавай палітычнай арганізацыі моладзі – камсамолу – ідзе нешта новае. Сярод гэтага новага – Партыя народнай згоды Беларусі, якая скіроўвае сваю ўвагу перш-наперш на праблемы моладзі.

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў паўгода таму зацвердзіў склад гарадской камісіі па справах непаўналетніх і нядаўна — рашэнне аб абмежаванні знаходжання на вуліцах і ў іншых грамадскіх месцах пасля 23 гадзін непаўналетніх да 18 гадоў без суправаджэння дарослых. Часу хаця б для абмеркавання іншых праблем моладзі (занятасць, культурнае і фізічнае развіццё, удзел у вытворчай і камерцыйнай дзейнасці) у Савета не знайшлося.



Ва ўмовах дэфіцыту грамадскай увагі да сябе новае пакаленне непаўналетніх апынулася ў безвыходным становішчы, калі прац аўладкавацца практычна няма куды, вольны час правесці няма дзе, набыць хаця б за бацькоўскія грошы адзенне немагчыма. Адсюль— галапіруючы рост злачыннасці (у асноўным карыслівыя злачынствы), прымітывізм існавання, пачуццё безвыходнасці. Новыя палітычныя партыі і грамадскія рухі, канешне, не выкідваюць са сферы свайго ўплыву катэгорыю непаўналетніх, але першыя для апошніх так нічога і не зрабілі.

Цікавым штрыхом на гэтым фоне выглядае ствараемая партыя цэнтрысцкага напрамку (аргкамітэт прыняў назву — партыя народнай згоды), у пункце першым статута якой канстатуецца, што "членам партыі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь з 16 гадоў". Члены аргкамітэта — навукоўцы, народныя дэпутаты РБ, Мінскага гарадскога і іншых Саветаў народных дэпутатаў, прадстаўнікі працоўных калектываў з усіх абласцей рэспублікі. Яны лічаць, што вырашыць праблемы моладзі можна толькі пры ўдзеле ў іх вырашэнні самой моладзі. Вынёсак — членства ў партыі народнай згоды цалкам магчыма з 16-гадовага ўзросту, калі грамадзянін Рэспублікі атрымлівае пашпарт, паўнацэнна адказвае за захаванне законаў і арыентаваны на грамадзянскі саўдзел у жыцці грамадства.

Так што, юнакі і дзяўчаты, каму неабыякавыя лёс Рэспублікі і свой уласны лёс, рыхтуйцеся да членства ў партыі народнай згоды.

Якаў Андрэенка,
член аргкамітэта
па стварэнню ПНЗБ.

*Кропка над "і"*

## ШЛЯХТА ГОНАР МАЕ

Гадоў колькі таму ў прэсе з'явіліся абвесткі пра стварэнне Згуртавання шляхты Беларусі. Па сённяшні дзень гэтая супольнасць мацуецца грамадскімі сіламі. Складзены статут, але пакуль што не пададзены на рэгістрацыю ў Саўмін. Да таго ж міралюбную, гісторыка-культурную, вартую павагі й гонару (сапраўды шляхетную) дзейнасць маладога згуртавання шакіраваў нечаканай заявай Пятрусь Гушча. Абвестка Гушчы пра намер беларускай шляхты звярнуцца да ВС і Саўміна Рэспублікі за наканаванымі па радаводнаму праву землямі ляснула як гром сярод яснага неба над галовамі саміх жа ўдзельнікаў незарэгістраванага згуртавання.

— Думка Гушчы цалкам прыватная і не з'яўляецца меркаваннем аргкамітэта,— далікатна ўдакладніў Гушчавы дэкларацыі Леанід Аляксандравіч Акаловіч — філолаг, краязнаўца, канцлер ці герольд-майстар згуртавання беларускай шляхты.

Пэўне, спадару Гушчы варта было падкрэсліць, што ён выказвае ўласны пункт погляду, а не калектыўныя памкненні сваіх паплечнікаў.

— Мы займаемся,— працягвае Леанід Аляксандравіч,— перш за ўсё падняццем радаводнай справы. Канешне, цікавімся найбольш шляхетнымі родамі. Вядзём свой збор своеасаблівага банку даных, каб чалавек, дазнаўшы свае карані, праз гэта прыйшоў да ўсведамлення адзінства са сваім народам. Зрабіць такую справу нялёгка. У выніку навалаў з Усходу на Захад, з Захаду на Усход панішчаны патрачаны выпадкова альбо свядома (самі людзі палілі, каб пазбегнуць пакарання) паперы. Маем на мэце стварэнне радаводнай бібліятэкі, збіраем гербоўнікі, геральдычныя кнігі.

І хоць вядзе спадар Акаловіч шматлікае ліставанне, але запрашае й нашых чытачоў скіроўваць яму свае паперы. Так што, шаноўнае спадарства, хочаце даведацца пра сваіх продкаў, аднавіць генеалагічнае дрэва свайго роду, дасылайце лісты на адрас: 220116, Мінск, а/с 59, ці тэлефануйце па нумару 71-33-60.

А.А.

## АБВЕСТКА

**Журналісты, якія жадаюць асвятляць працэс беларуска-індзейскага збліжэння і мерапрыемствы ў сувязі з 500-годдзем "адкрыцця" Амерыкі, а таксама супрацоўнічаць з індзейскай прэсай, могуць акрэдытавацца ў агенцтве "Інфармацыйная служба Беларуска-індзейскага таварыства".**

**246049,
Гомель,
а/с 114 ІС БІТ.**

Паласа падрыхтавана Аленай АГІБАЛАВАЙ, рэдактарам аддзела палітыкі, эканомікі і гісторыі; тэл. 39-87-94.

# СОЛА ДЛЯ ГІТАРЫ СА СПАГЕЦІ

## *Наш карэспандэнт сустрэў Новы год у Будапешце*

*Я закахаўся ў Будапешт. Нягледзячы на ўсе цяжкасці пры паездцы, недакладнасці, арганізацыйныя пралікі, спробы ўсялякіх цёмных асоб выцягнуць з нас як мага больш грошай за тыя альбо іншыя "паслугі", частка маёй душы засталася ў Будапешце. На вузкіх і крутых вулачках старой Буды. На ззяючых фешэнебельных праспектах Пешта. У халодных і хуткіх хвалях Дуная. Вылілася цераз край разам з весялосцю і добрым настроем пад час сустрэчы Новага года разам з усімі жыхарамі і гасцямі горада, што выйшлі на вуліцы.*

*Але па парадку.*

У Будапешт я ехаў на тыдзень міжнародных сустрэч моладзі. Ехаў у халодным неацепленым вагоне да Масквы, каб, цэлы дзень прабадзяўшыся па яе змрочных сырых вуліцах, наскрозь прадзьмутых сцюдзёным ветрам і хмурымі позіркамі, сесці, у рэшце рэшт, на цягнік "Масква—Будапешт", запоўніць дэкларацыю, праз сон прайсці мытню ў Чопе і прачнуцца, пад'язджаючы раніцою да будапешцкага вакзала. І адразу ахінуцца ў атмасферу вялікай маладзёжнай тусоўкі. Вакзал поўніўся шматмоўнымі гутаркамі, рознакаляровымі заплечнікамі гасцей міжнародных сустрэч, а ў метро нават стварылася проста пробка — цягнікі не паспявалі адвозіць прыбываючых людзей. І нядзіўна: на сустрэчу прыбыло 77 тысяч хлапцоў і дзяўчат з усяго свету! Тут былі французы і італьянцы, немцы і іспанцы, англічане і ірландцы, аўстрыйцы і палякі, славенцы і амерыканцы, прыбалты і філіпінцы, беларусы, аўстралійцы, украінцы і шмат, шмат яшчэ розных нацыянальнасцей. Прычым усе яны прыехалі амаль у адзін дзень — 30 снежня. Можаце сабе ўявіць, якую трэба было правесці арганізацыйную работу, каб прыняць, рассяліць і накарміць іх усіх?!

Прадстаўнікі кожнай краіны, моладзь якой мела намер прысутнічаць на міжнародных сустрэчах, выехалі крыху раней за астатніх у Будапешт і цяпер на зборным пункце яны сустракалі свае групы, забяспечвалі іх інфармацыяй, накіроўвалі на рассяленне і г.д. Толькі беларусы не мелі такога прадстаўніка сярод арганізатараў. Крыўдна, але рабіць няма чаго і, крыху падумаўшы, мы скіраваліся да ўкраінскага аддзялення. Тамтэйшыя крыху разгубіліся. Але ўкраінцы, хлопцы маладыя і дзейсныя, хутка вырашылі праблему, забяспечыўшы нас квіткамі на бясплатнае харчаванне і праезд на ўсіх відах транспарту, інфармацыйнай літаратурай (праўда, на ўкраінскай мове), мапай Будапешта, накіравалі на засяленне.

Маленькі гарадок Вац, на адлегласці пацьдзесят кіламетраў ад венгерскай сталіцы, прытуліўся на беразе таго ж магутнага Дуная. Гэта старадаўні, складзены ў асноўным з аднапавярховых асабнякоў і маёнткаў мадзьярскі горад. Як і паўсюль у Венгрыі, там шмат невялічкіх касцёлаў, што ў адзін час раніцою і ўвечары пачынаюць службу.

Частку групы (у асноўным тых, хто ехаў парамі) рассялілі па прыватных кватэрах, астатніх жа расквататаравалі ў школьным інтэрнаце, які стаяў пусты з нагоды дзіцячых канікулаў. Бываючы накладкі і ў педантычных венграў, у выніку якіх мне з сябрамі давялося першую ноч спаць на фатэлях у калідоры. Але справа, у рэшце рэшт, не ў тым. У маладым узросце можна спаць дзе атрымаецца. Італьянцы, напрыклад, што жылі на паверх ніжэй, так, да заверішэння сустрэчы, і спалі ў калідоры, захінуўшыся спальнікамі, дэманструючы такім чынам сваё сяброўства і поўную "адмарожанасць".

Наступны дзень, 31 снежня, здзівіў нас цёплым надвор'ем. Дарэчы, яно так і захавалася добрым і па-красавіцку цёплым, што нязвыкла для нашай беларускай зімы.

Запоўніўшы спецыяльны дызель, арандаваны грамадой братоў Тэзе для дастаўкі паломнікаў, што расселены за мяжой Будапешта, мы скіраваліся да агульнага месца збору, дзе мелі адбывацца малітвы.

Тут, напэўна, трэба крыху растлумачыць сэнс сустрэчы, на якія з'язджаюцца тысячы юнакоў і дзяўчат, прадстаўнікі ад 30 да 70 нацыянальнасцей.

У царкве прымірэння тры разы ў дзень усе прыбыўшыя (гэта могуць быць і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты, і уніяты, і няверучыя) збіраюцца на сумесную малітву. Сумесная малітва вельмі простая: усе разам спяваюць песні, псалмы, чытаюць Стары запавет, моляцца аб заступніцтве, проста маўчаць. Кожнаму ўдзельніку даецца тэкст малітваў, надрукаваных на яго мове, і таму спяваюць усе. Асноўная мэта гэтых сустрэч — унутранае жыццё і чалавечая салідарнасць, давер Богу і ўступленне на яго шлях. Браты Тэзе даюць каментары Бібліі. Асобная малітва і роздум дапамагаюць моладзі знайсці ў Богу сэнс свайго жыцця і новую энергію. Раздзеленыя на групы, у якіх удзельнічае моладзь самых розных нацыянальнасцей і нават розных кантынентаў, хлопцы і дзяўчаты адкрываюць новыя небасхілы, абуджаюць у сабе давер да іншых нацыянальнасцей і дзеляцца сваімі культурнымі каштоўнасцямі з іншымі. Кожны можа адкрыць новыя канкрэтныя шляхі для ажыццяўлення салідарнасці з тымі, хто блізка, альбо хто вельмі далёка.

Гэтыя словы я ўзяў з "Ліста з Тэзе" — "Любоў — крыніца свабоды", распаўсюджанага сярод прыехаўшай на сустрэчу моладзі.

Не маючы ў сэрцы грунтоўнай, выхаванай бацькамі, выпеставанай традыцыямі веры (як, прынамсі, няма яе і ў большасці маіх равеснікаў краіны "развітога сацыялізму"), мне было вельмі цікава пабачыць на свае вочы тыя святыя цэрквы прымірэння, дзе могуць збірацца людзі ўсіх рэлігійных накірункаў, і пачуць тыя малітвы, якія могуць аднachасова спяваць людзі розных нацыянальнасцей.

Усё адбывалася ў некалькіх (чатырох альбо пяці, не ведаю дакладна) вялікіх ангарах ці, мажліва, сховішчах, чыстых, цёплых і з добрай вентыляцыяй. У царкве прымірэння, куды пайшлі мы, споведзі чыталіся на нямецкай, французскай, расейскай, літоўскай і славенскай мовах па чарзе з невялікага памоста, упрыгожанага простай (без пафасу) рэлігійнай атрыбутыкай. Збоку, для памоста, сядзеў даволі вялікі сімфанічны аркестр. Паломнікі ўладкоўваліся проста на падлозе, падаслаўшы спальнікі альбо спецыяльныя посцілкі. Набліжаўся час ранішняй малітвы. Раптам усе сціхлі. Аркестр зайграў. Мяккія галасы юнакоў і дзяўчат з хору зацягнулі першую песню, і зала, ужо знаёмая з малітвамі і паслядоўнасцю іх выканання ў сённяшні дзень, падхапіла, напаўголасу выводзячы таемныя словы. Прызнацца па праўдзе, такой чароўнай мелодыі чуць мне яшчэ не даводзілася. Простыя словы малітвы нібыта самі лезлі ў галаву, і ты пачынаў спяваць іх разам з усімі. Мелодыя ахоплівала, узнімала над падлогаю, і, здавалася, душа, зліўшыся з душамі тысяч тых, хто сядзеў побач з табою, і дзесяткаў тысяч тых, хто знаходзіўся дзесьці побач, узлятала над вулачкамі Будапешта, абшарамі Венгрыі, у яе аксамітныя блакітныя нябёсы і імкнулася ў невядомую далячынь да таго светлага і чыстага (Бога?), што ад нас далёка, але да чаго мы ўжо ідзём. У памяшканні панавала дзіўнае ўзаемаразуменне і дабрата. Незнаёмыя людзі розных нацыянальнасцей усміхаліся адзін аднаму. На душы было светла і радасна.

У абед усім не хапіла ежы (стандартны набор: падагрэтая кансерва, булка, яблык, шакаладка). Арганізатары не ўзялі ва ўлік чалавечую сквапнасць — бралі па дзве, па тры порцыі. Але праблема была вырашана імгненна: не прайшло і дваццаці хвілін, як грузавікі прывезлі дадатковы харч. Гэты прыклад я прывёў не для таго, каб неяк прынізіць чалавека. Шмат хто, як, напрыклад, паломнікі з былога Саюза, прыехалі без грошай у кішэні, а адной порцы ўсё ж было мала людзям, здарожаным доўгай вандроўкай. Гэта для таго, каб паказаць, як добра зарганізавалі браты Тэзе мерапрыемства. Не забывайцеся — на 77 тысяч чалавек!

А напярэдадзе была навагодняя ноч. Пасля вячэрняй малітвы і вячэры мы скіравалі ў горад. Браты-прапаведнікі прапанавалі застацца на начную малітву за мір і пакутных, але ўжо вельмі карцела паглядзець святочны Будапешт.

Калі верыць гістарычнай літаратуры і фільмам, так святкаваў народ нашай шматпакутнай зямлі адметныя дні ў календары апошні раз да рэвалюцыі. Столькі радасці, весялосці, гарэзлівасці і шчырасці нам, напэўна, яшчэ доўга не ўбачыць на родных абшарах. Здавалася, усе, хто быў у горадзе, выйшлі на вуліцы. Горад ашалеў. Людзі хадзілі з гучнымі трубкамі розных памераў і расфарбовак, дудзелі ў бок прахожых, абсыпалі канфеці. Паводле павер'я, гэта прыносіць шчасце ў наступным годзе. І што дзіўна — амаль не было п'яных, ніякіх боек і патасовак. Паліцыя знікла. А на тых рэдкіх паліцэйскіх, якім давялося несці службу ў навагоднюю ноч, дудзелі і сыпалі гэтак жа, як і на ўсіх іншых людзей. Было шумна і весела, а на сэрцы — светла і радасна.

А ў нашым інтэрнаце нас ужо чакалі сябры. Венгры і італьянцы, палякі і немцы, славенцы і іспанцы сядзелі за адным сталом. Для пачатку яны аблілі нас шампанскім, потым пачаставалі віном, а затым прымусілі заспяваць беларускую песню.

Італьянцы частавалі ўсіх спагеці. Палякі наладзілі шумную, камічную дыскатэку, а немцы з імпэтам выконвалі пад гітару песні "Ролінг Стоўнз", "Сэкс Пістолз" і усе разам мы спявалі "Бітлз".

Раніцою ўсе разам мы ізноў скіраваліся ў Будапешт. Адны на малітву, другія гуляць па горадзе, а большасць нашай групы — на рынак. І я разумеў гэтых людзей. Нашае ганебнае эканамічнае становішча вымушала паломнікаў з Усходу думаць не толькі аб душы. А што рабіць?

Мы з сябрам, схадзіўшы на ранішнюю малітву, гулялі па Будапешце і не маглі наглядзецца на яго помнікі і цуды дойлідства, яго людзей і яго атмасферу дабрыні. Так, дабрыні. Гэта пачуццё засталося ў сэрцы, а не крыўда на таго хітрага махляра, што выцягнуў у мяне з кішэні колькі дзесяткаў доляраў, ці чэчэнскую мафію (дарэчы, вельмі моцную), што "рэкетнула" нашых гандляроў. Чэчэнская мафія ў Венгрыі існуе паўсюль, ва ўсіх сферах — ад рынку да вакзала — і паліцыя іх амаль не кранае. Чаму? Адказу не маю. У Польшчы з такімі мафіёзі "чорная" паліцыя ваюе хутка і ўмела.

Але, ну іх! Размова ўсё ж не аб тым. Наступнай раніцою нас скіравалі па сем'ях. Нам належала правесці час з венгерскімі гаспадарамі за снеданкам і малітвамі. Бабуля, да якой патрапілі мы з сябрам, сустрэла нас цёплай усмешкай і гарачай вячэрай. Яна ведала пяць слоў па-расейску і больш-менш гаварыла па-нямецку. Але ўжо перад развітаннем, пасля смачнага венгерскага віна, мы выдатна разумелі адзін аднаго.

А вечарам у інтэрнаце ізноў чакала вясёлая кампанія. Італьянцы частавалі ўсіх спагеці і навучылі, як паловай бутэлькі гарэлкі напаіць пяцёх чалавек. Цікавіцеся? Падыходзьце, раскажу. Тыдзень мінуў незаўважна. І мы, не разыходзячыся ў апошні вечар да трох гадзін раніцы, вымушаны былі, у рэшце рэшт, развітацца. Забраўшы з сабою ўражанні, адрасы сяброў і нейкі незразумелы агонь пошуку светлага і чыстага, што распалілі пругожыя песні-малітвы, мы раз'ехаліся ў розныя бакі.

Прыгадваючы сёння тую вандроўку, я думаю: колькі яшчэ мясцін, якіх мы не бачылі, колькі людзей, якіх мы не ведаем. Гэта тычыцца не толькі замежных абшараў, але і нашай краіны. І ці пабачым мы калі гэтыя краіны, ці спаткаем гэтых людзей? На руінах велічэзнай савецкай імперыі калі не ідзе перастрэлка, то нацыянальныя спрэчкі перакрылі шляхі вандровак. А за мяжу квіткі каштуюць столькі, што і прыгадваць лішні раз млосна.

А мой новы сябар запрашаў мяне да сябе, у Барселону паглядзець на Алімпійскія гульні! Смех.

І яшчэ. Можна верыць альбо не верыць у Бога. Але я ўпэўнены, што не паверыць пасля такіх сустрэч у тое светлае, чыстае і добрае, што збліжала ўсіх нас, немагчыма. І ўжо адно гэтае апраўдала тыя дзесяткі мільёнаў доляраў, што скарысталі браты Тэзе на арганізацыю тыдня міжнародных сустрэч моладзі.

Наступны раз плануецца правесці іх у Вене альбо Берліне. Я мару туды патрапіць. Але за якія сродкі?

**Зм.Лукашук,**
**Менск—Будапешт.**



## "Чалюскініяда"

Паважаная рэдакцыя!

У апошні час у вашай газеце былі апублікаваны артыкулы "Сакрэтны фарватэр" і "Наступны прыпынак — "Парк Чалюскінцаў" ("Чырвоная змена", №№ 39, 50 за 1991 год), у якіх закрануты некаторыя аспекты жыцця і дзейнасці Мінскага парку культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў. Дзякуючы газеце стала вядома, што за распіванне спіртных напіткаў на рабочым месцы нарадам міліцыі Першамайскага РАУС быў складзены пратакол на рад працаўнікоў парку, у тым ліку дырэктара Кокінава В.П. У пачатку сезона тав.Кокінаў В.П. таксама быў затрыманы ў нецвярозым стане нарадам міліцыі і дастаўлены ў Першамайскі РАУС. На здзіўленне калектыву парку, амаль ніякай рэакцыі з боку ўпраўлення культуры Мінгарвыканкома не адчулася, хаця размова ідзе аб дырэктару культурна-асветніцкай установы. Але ж нейкія выпіскі з пратакола павінны былі быць пасланы ва ўпраўленне культуры (у парк яны, відаць, не трапілі). У апошнім артыкуле "Наступны прыпынак — "Парк Чалюскінцаў" закранута пытанне аб маральным клімаце ў калектыве парку і ў прыватнасці аб непрыманні крытыкі дырэктарам парку. З усім адзначаным у артыкуле мы цалкам згодны.

Цяпер нам хацелася б выказаць свой погляд на прычыны і вынікі гэтага становішча. З назначэннем тав.Кокіна В.П. на пасаду дырэктара парку імя Чалюскінцаў калектыў не быў згодны. Аднак упраўленне культуры, насуперак волі калектыву, выдала загад аб яго назначэнні (у той час дырэктар павінен быў выбірацца па Закону аб прадпрыемствах). Адной з прычын непрымання калектывам гэтага назначэння былі чуткі аб несамавітых учынках Кокінава на месцах папярэдніх работ. Некаторыя з іх праявіліся амаль адразу. Кокінаў пачаў прымушаць касіра да выдачы грошай за некаторых работнікаў парку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Адзін раз прапанаваў за гэта 25 рублёў (у той час дырэктар парку імя Чалюскінцаў быў аднachасова і дырэктарам аб'яднання паркаў культуры і адпачынку). Увогуле, дзейнасць Кокінава В.П. на пасадзе дырэктара суправаджалася незвычайнай "дэмакратыяй". Напрыклад, "калегіяльна" вырашалася пытанне аб пераշыве адных (!) штаноў для гуртка бальнага танца.

Якi маральны клімат можа быць у калектыве, калі дырэктар у размове мог абразіць супрацоўнікаў парку.

Узнікае пытанне і па зацягнутаму рамонту танцзалы "Мінск" (16 месяцаў). Атрымліваецца нейкая чахарда з рознымі будаўнічымі кааператывамі, пасля якой няма з каго спытаць за тэрмін, якасць і г.д. Прыгадаем адзін выпадак. Пасля капітальнага рамонту даху танцзалы "Мінск", які выконваў кааператыў, з'явілася цеча. Дырэктар выклікаў выканаўцу рамонту, і, відаць, прапанаваў адрамантаваць дах, пасля чаго той выскачыў з кабінета дырэктара і ўвайшоў у кабінет нам.дырэктара (што непасрэдна курыраваў будаўніцтва) з рэплікай: "Я яму такія грошы заплацію, а ён патрабуе пераробкі даху?!.." (Гэтыя словы чулі сама менеей 3 чалавекі). Дах тады выправілі іншы выканаўца.

У свой час у парку было створана падраздзяленне "Арт-сервіс", якое павінна было ажыццяўляць зборку, мастацкую дапрацоўку тавараў народнага спажывання з закупленых паркам паўфабрыкатаў. У выніку ж парк набываў паўфабрыкаты, а "Арт-сервіс" з дапамогай падстаўных асоб рэалізоўваў праз гандлёвую сетку прадукцыю. Калі гэта высветлілася, падраздзяленне ў момант "пайшло з малатка". Ёсць яшчэ шмат пытанняў, якія даюць падставы для разважанняў.

Цяпер, натуральна, паўстае пытанне: "Куды глядзеў калектыў?" Калі гаварыць аб дырэкцыі, то, ведаючы аб магутнай падтрымцы дырэктара з боку ўпраўлення культуры, паспрабуй пікні. Цяпер модна скарачэнне штатаў. Прыструніць калектывам? Няма правоў. Ва ўмовах арэнды гэта магчыма толькі тэарэтычна.

Мы лічым, што гэтае пытанне павінна вырашацца з дапамогай упраўлення культуры Мінгарвыканкома.

Што тычыцца паказчыкаў гаспадарчай дзейнасці парку, то яны таксама не на вышыні. Мы думаем, што гэта вынікі пастаянных інтрыг і дрэннага маральнага клімату ў калектыве.

Калектыў дырэкцыі парку культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў выказвае недавер і хадайнічае аб вызваленні дырэктара парку тав.Кокінава В.П. ад займаемай пасады.

Галоўны бухгалтар І.Хахлова.

Нам.дырэктара А.Крывянок.

(Усяго 6 подпісаў).

Заўвага: Копіі гэтага ліста накіраваны начальніку ўпраўлення культуры Мінгарвыканкома і дэпутацкай камісіі гарсавета па культуры.




Ад рэдакцыі:

*На жаль, адзіным вынікам публікацыі матэрыялу "Сакрэтны фарватэр" быў калектыўны ліст у рэдакцыю ад імя сталічнага ўпраўлення культуры (падпісаны, дарэчы, у асноўным работнікамі тэхнічных службаў упраўлення), у якім выказвалася нязгода з артыкулам, аднак не было амаль ніякіх абвяргальных фактаў.*

*На другі ж матэрыял — "Наступны прыпынак —"Парк Чалюскінцаў"— увогуле ніякай рэакцыі з боку ўпраўлення не паследавала. Праўда, у рэдакцыю патэлефанаваў адзін з герояў указаных публікацый Ч.Н.Муліца, намеснік начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама (менавіта ён якраз і спрабаваў навесці парадак у справах упраўлення, у прыватнасці, у парку імя Чалюскінцаў), і паведаміў, што... звольнены загадам начальніка ўпраўлення "за злоўжыванне службовым становішчам". Такім чынам, сістэма зноў знайшла "крайняга". Вынось гатовенькага"...*

*Зараз "справу Муліцы" і вышэй прыведзены ліст вывучае дэпутацкая камісія Мінгарсавета і пракуратура. Пра тое, як далей будуць разгортвацца падзеі на "культурнай ніве" Мінска, рэдакцыя абавязкова паведаміць чытачам.*

## Вы мяне пакрыўдзілі

Галоўнаму рэдактару газеты "Чырвоная змена" спадару Бельскаму У.П. ад пісьменніка Алеся Петрашкевіча.

Паважаны Уладзімір Пятровіч!

**У 51-м нумары газета "Чырвоная змена" пракаменціравала факт стварэння малога прадпрыемства з удзелам некалькіх пісьменнікаў, якое будзе займацца грамадскім харчаваннем у Доме літаратара.**

**З каментарыя вынікае, што газета і яе аўтар разглядаюць гэты факт, як з'яву ганебную і пісьменнікаў недастойную.**

**Справа, канешне, газеты і яе аўтараў вольна выкарыстоўваць фарбы замілавання ці сарказму ў ацэнцы з'яў жыцця, але навошта пры гэтым выкарыстана маё імя? Алесь Петрашкевіч не меў і не мае аніякіх адносін да ўпамянутага малога прадпрыемства і не збіраецца ні ў блізкай, ні ў далёкай перспектыве працаваць на ніве грамадскага харчавання ці нейкім іншым чынам у гэтым удзельнічаць.**

**З павагай да газеты**

Алесь Петрашкевіч.

Ад рэдакцыі:

*"Чырвоная змена" просіць прабачэння ў Алеся Петрашкевіча за дапушчаную памылку.*

## Яшчэ адна пятля на шыю "Саюздруку"

Уважлівы чытач, пэўна, не прапусціў маленькі артыкул у "Народнай газеце" ад 10 студзеня пад назвай "Хто заказвае музыку?" Для тых, хто не чытаў, дадам яшчэ падзагаловак: "Як Літаратурна-выдавецкае агенцтва "Эрыдан", у якога кішэні грошай, спрабуе "зацягнуць пятлю" на шыі "Саюздруку". Чытаеш — аж слязінкі па шчаках: як не сорамна пакідаць жыхароў такой вялікай часткі Кастрычніцкага раёна Мінска без амаль апошняга ў іх агеньчыка свята друкаванага слова?! Забрала злодзейскае агенцтва ў чытачоў пункт падпіскі і апошні магазін.

Ну што ж, ці не час праліць святло на гэтыя пытанні? Па-першае, у тым жа, па сутнасці, жылым раёне, акрамя магазінаў "Саюздруку" №№ 14 і 22, ёсць яшчэ адзін, новы, на вуліцы Жукоўскага, куды, дарэчы, і быў перанесены пункт падпіскі на перыёдыку Кастрычніцкага раёна. А, наколькі мне вядома, больш аднаго пункта на раён "Саюздрук" не робіць, хаця не буду асправаць, можа стары пункт, што на Чкалава, 1, быў бы нялішні. Але не для падпісчыкаў, для самога "Саюздруку".

Зразумець, чаму падобныя артыкулы з'явіліся адразу ў двух газетах — "Народнай" і "Звяздзе" — даволі проста. Большасць выданняў непасрэдна залежыць ад "Саюздруку", бо толькі гэта прадпрыемства займаецца іх рэалізацыяй. Адным словам, "Саюздрук" з'яўляецца проста манапалістам у гэтай галіне гандлю. Дарэчы, калі ЛВА "Эрыдан" прапанавала таму ж "Саюздруку" на рэалізацыю свае выданні — тры газеты і часопіс, — атрымала адмоўны адказ. Праўда, не адразу. За рэалізацыю газеты "Польский рынок" "Саюздрук" спачатку запрасіў неверагодныя 45 працэнтаў ад наміналу! І калі "Эрыдан" згадзіўся нават на гэтыя кабальныя ўмовы, усё ж такі манапаліст адмовіўся. Дзе ж у такім выпадку рэалізоўваць газеты? З пункту гледжання "Саюздруку", пытанне павінна застацца рытарычным.

Цяпер што датычыць гандлёвых памяшканняў. Так, па дагавору аб субарэндзе "Эрыдан" гандляваў у магазінах "Саюздруку" на вуліцах Чкалава і Варанянскага. Плаціў, дарэчы, за гэта суму, што значна перавышала тую, што плаціў "Саюздрук" за арэнду. Пры гэтым гандляваў усімі таварамі асартыменту гаспадароў, а таксама сваімі кнігамі і перыядычнымі выданнямі, правёў падпіску на свае кнігі, якія так і застаюцца дэфіцытам. Такім чынам, пры агульным плане мінскага гарадскога "Саюздруку" у 25 мільёнаў рублёў, "Эрыдан" выканаў гэты план у 1991 годзе на 13 с паловай мільёнаў! Гэтыя лічбы гавораць самі за сябе.

Калі пра субарэнду памяшканняў стала вядома ў ЖРЭА Кастрычніцкага раёна, было вырашана перадаць магазіны у арэнду ЛВА "Эрыдан" напрамую, без пасрэднікаў. Што і было пацверджана распараджэннем Мінгарвыканкама. Прычым, гэта ж распараджэнне абавязала "Эрыдан" гандляваць у гэтых пунктах прадукцыяй "Саюздруку". Не чакаючы прапаноў з боку "Саюздруку", ЛВА "Эрыдан" само прапанавала свае рэалізатарскія паслугі. Але "Саюздрук" адмовіўся і на гэты раз.

Цяпер кіраўніцтва Беларускага рэспубліканскага агенцтва "Саюздрук" (толькі не зразумела, чаму не Мінскае гарадское, якому і належалі дагэтуль магазіны) імкнецца даць ужо існуючым пастановам зваротны ход, ці шляхам палавінчатых рашэнняў зноў паступовa паставіць усё на старыя месцы. Пры гэтым не забываючы пра старыя сяброўствы. А як жа, сучасны кіраўнік БРА "Саюздрук" Г.І.Панфіловіч калісьці працавала сакратаром па ідэалогіі Партызанскага райкома КПБ Мінска, і ў той жа час сучасны старшыня Мінгарвыканкама А.Герасіменка быў першым сакратаром таго ж райкама! "Ну как не порадеть родному человечку!"

Убачым, як разгорнуцца падзеі далей. Але зразумела адно: колькі б мы ні гаманілі пра арэнду і прыватызацыю, без супрацоўлення старых структур, былых манапалістаў гэты працэс не абыдзецца. Прэцэдэнт ужо ёсць.

Я.Пучкоў.




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Матыненка, тэл. 39-87-94.

№ 2 (192)

*Відэасалон*



Жанчына ў року — жанчына.
Фота Тамары Хаміцэвіч.

*Спяваем па-беларуску*

# КЛІЧ ПАГОНІ

Музыка Уладзіміра Макарэвіча

Словы Алеся Жамойціна

1. Скача вершнік па чырвоным полі,
Праз вякі няма яму спакою,
Пóкуль Край не мае вольнай долі, —
Грозны меч занесены — за волю!

2. Праз гады, крывавыя стагоддзі
Не змаўкае ў сэрцы кліч Пагоні.
Годзе ўжо, браты, драмаці, годзе!
Час і нам сядлаці нашых коней.

3. Край бяздольны зaхінем плячыма,
Паляцім па тым чырвоным полі;
Покуль свет стаіць перад вачыма,
Покуль не здабудзем вольнай волі!




*Зоркі на небасхіле*

# Недабудаваны асабняк

На канцэртах Браян Мэй прадстаўляў музыкаў:

— Знаёмцеся з гуртам "Куін" (у адказ роў стадыёна); на барабанах містэр Роджэр Тэйлар (трыбуны аглушальна ўзвываюць); на бас-гітары містэр Джон Дзікан (дружны лямант ста тысяч чалавек); вакал — містэр Фрэдзі Меркуры (аўдыторыя канчаткова шалее)...

Так было дзесяткі, сотні разоў. Дваццаць чацвёртага лістапада мінулага года рыса была падведзена: брытанскага гурта "Куін" не стала. Ёсць дыскаграфія, якая налічвае амаль дваццаць альбомаў, ёсць фільмы (напрыклад, стужка "Чараўніцтва "Куін" у Будапешце", якая ў 1988-м годзе ішла і на нашых экранах); ёсць відэакліпы. Гэтая творчая спадчына, безумоўна, будзе яшчэ шматразова тыражавацца; верагодна, выйдзе дыск (можа, і не адзін) з архіўных матэрыялаў, гэткая "Кода" — пад такой трапнай назвай выпусцілі апошнюю пласцінку ў 1982-м не існуючыя ўжо "Лэд зэпелін".

Але ніхто ніколі не пачуе больш — жыўём, на канцэрце — гэтых слоў: "Містэр Фрэдзі Меркуры". І нікому не дадзена зведаць, якія не напісаны яшчэ гіты кампазітарам, якога параўноўвалі з Ленанам і Макартні. Памёр Музыка; яго смела можна назваць каралём вакальнай імправізацыі ў року.

Перс па нацыянальнасці, ён (сапраўднае імя Фрэдэрык Балсара) нарадзіўся ў Занзібары пятага верасня сорак шостага года. Атрымаўшы дыплом мастака-афарміцеля, Меркуры далучыўся да нядаўна створанага лонданскага гурта "Смайл" ("Усмешка"). Да гэтага часу (на мяжы 60-х і 70-х гадоў) над новым праектам ужо працавалі Браян Мэй з гітарай уласнай канструкцыі і неверагоднага гучання, ударнік Роджэр Тэйлар, які па некалькі гадзін настройваў свае барабаны, і вакаліст Цім Стафел. У хуткім часе ў каманду па конкурсу быў прыняты басіст Джон Дзікан. Распаўшыся на кароткі перыяд і страціўшы Стафела, гурт з падачы Меркуры змяніў назву на "Куін". Для англічан гэта было вельмі прэтэнцыёзна, і стала зразумела, што ўдзельнікі разлічваюць на самы сур'ёзны поспех.

У 1972 годзе квартэт быў запрошаны для выпрабаванняў студый толькі што пабудаванага аўдыяцэнтра ў Уэмблі. Выкарыстаўшы цудоўнае абсталяванне, музыкі зрабілі дэма-запіс, які па вартасці адзначыў вінілавы монстр EMI. У наступным годзе выйшаў першы дыск, і пачалася бліскучая кар'ера...

"Куін" хутка набыў рэпутацыю аднаго з лепшых канцэртных гуртоў свету. Ейныя студыйныя дыскі надзвычайна адрозніваліся адзін ад аднаго стылістычна, маючы адзіную агульную рысу: усе яны раскупляліся праз некалькі дзён пасля выхаду; колькасць прададзеных у свеце кружэлак даўно перавaліла за сто мільёнаў.

Бяспрэчна, усе члены гурта — рокеры экстра-класа. Гэта пацвярджаюць і іхнія паспяховыя сольныя праекты. Але цэнтравая фігура "Куін" — містэр Фрэдзі Меркуры. Праслухайце па чарзе "Каханне майго жыцця", "Дазволь павесяліць цябе", "Смерць на дзвюх нагах", "Багемская рапсодыя", "Не спыняй мяне цяпер"... Цяжка ўявіць, што гэтыя рэчы належаць аднаму і таму ж аўтару (з улікам неверагоднай жанравай разнастайнасці, бо рок-н-ролы тут перамяжоўваюцца з "сардэчнай" лірыкай, гардам, дыскам і нават аперэтай).

Музычны асабняк, узведзены "Куін", застаўся недабудаваным. Меркуры загінуў у росквіце творчых сіл. Апошні дыск гурта, як заўсёды, трывала абгрунтаваўся ў гіт-парадах. Аб адэкватнай замене гаварыць не даводзіцца, бо феномены не маюць аналагаў, толькі пераймальнікаў.

Фірма "Мелодыя" абышла ўвагай "Куін" (толькі ў перабудоўчыя гады выпусціла ўсяго адну зборку). Памятаю разважанні генеральнага дырэктара фірмы В.Сухарады гэтак гадоў пяць таму: "Мы меркавалі аб набыцці ліцэнзіі на выпуск альбома "Гарачыя прасторы" (1982 г.), але цікавейшым паказаўся заходнегерманскі дуэт "Модэрн Толкінг".

Зараз хоць ёсць надзея на незалежныя фірмы "SNC", "Эрыо" і г.д. Магчыма, зробяць у памяць аб містару Меркуры некалькі перадрукоўак? Для пачатку, скажам, "Вечар у оперы".

Што ў заключэнне? Спачуванні, спачуванні...

**Алесь Лейтман.**

# І ў іх свой Рэй

Сярод замежных джазавых славутасцей, якія апошнім часам наведалі нашу краіну, – Фрэдзі Хабард, Бастэр Уільямс, Бранфард Марсаліс, Бэні Голсан, Кэры Сан Ра са сваім "Аркестрам" (усе – ЗША), Альберт Мангельсдорф (ФРГ), джазавы ансамбль з Галандыі, іншыя выканаўцы.

"Аркестр", якім кіруе патрыярх амерыканскага джаза Кэры Сан Ра, прадставіў гледачам, якія не пашкадавалі грошай на дарагія білеты, фантастычнае джазавае шоу ў стылі "Афро-Ф'южн".

Наперадзе – вочная стаўка маскоўскіх (і не толькі) гледачоў з іншымі майстрамі джазавай імправізацыі.

НА ЗДЫМКУ: Майкл Рэй, саліст "Аркестра" Сан Ра (ЗША).

Фота Р.Дзянісава (ТАСС).






# ДЭВІД БОЎІ



На фотазд...
хоць і не ...

*Фрагменты тэм з альб...*

*Музыка і словы Д.Боў*
*Пераклад В.Мартыненкі*

## ЗАШН...

...Выпадкова я разгубіўся,
Але сапраўды не разумею,
У чым тут мараль...

(Гэта падыходзіць
да гульні № 1).

Раз'юшаны свет перасцерагае,
Што мы ахвяры хутчэй свайго лёсу,

Чым рэчаіснасці...

("Са звар...

...Яна патрабавала ма...
А я падарыў ёй свае н...
І яна захварэла на кл...

("Зашнараваў...
гіга...

Нічога не рабіў доб...

Ангельскі спявак Дэйвід Боў (нар. 8.1.1947 г., сапраўднае імя Дэйвід Роберт Джонс) трывала ўвайшоў у гісторыю брытанскай рок-музыкі, шырока вядомы ва ўсім свеце. Ягоныя дыскі выдаваліся як у Вялікабрытаніі, гэтак і ў ЗША, Францыі, Польшчы, Нямеччыне і г.д. Нават у Савецкім Саюзе. Стылістычна ён разам з Браянам Іно з'яўляецца родапачынальнікам новай хвалі ў року 70-х гадоў. Больш падрабязна "Нотны аркуш" пісаў пра Дэйвіда Боў у анатацыі на ягоны 2ЛП "Сцэна" (гл."ЧЗ" за 14 ліпеня 1990 года).




...а фотаздымку, які нам прадаставіла агенцтва **"Кейстан"**, Дэйвід Боў адлюстраваны ў кампаніі не менш славутых, ...оцць і не рокавых, знакамітасцей: зорка італьянскага кіно Арнэла Муці (справа) і манекеншчыца па мянушцы Іман.

...Чаго яны хочуць дасягнуць?
Што спадзяюцца знайсці?
Мільён мрояў, мільён кроз...

*...альбома*

# ...ШНАРАВАНЫЯ МОНСТРЫ

...ці...
("...а зваротнага боку").

...авала майго кахання,
...ёй свае небяспечныя думкі,
...эла на клаўстрафобію...
("...араваныя монстры... і гіганцкія мурашкі").

...рабіў добрага,
Нічога не рабіў злога,
Цяпер нічога не маю апроч смутку...
("Прах да праха").

...Мода — кірунак улева,
Мода — кірунак управа,
Мы ад сябе не залежым —
Ці не жывёліны мы?..
("Мода").

Магчыма, апошнім разам ты ў адзіноце.
Набярэш надоўга паветра,
А потым выеш, як воўк у пастцы.
("Дзікае жыццё падлеткаў").

Не хачу ісці на вайну,
Схавацца ў паперах ці ўцячы?
Не ведаю... І плачу, бы дзіця.
("Дзіўны, як дзіцё").

...Дайце мне, калі ласка, цемры,
Бо не магу больш бачыць...
Дайце мне ноч...
("Выпадковае каралеўства").

...Страляй мне ў галаву —
Вось шуму будзе ў прэсе!..
("А гэта не гульня № 2").

## Кнігарня "НА"

"КУПАЛІНКА"
(Папулярныя беларускія народныя песні пра каханне),
выдавецтва "БЕЛАРУСЬ",
Менск, 1986.

Чытачы, мабыць, паспелі ўжо прыкмеціць, што "Нотны аркуш" трымае ў сваёй кнігарні самы шырокі спектр выданняў: пра джаз і рок, пра оперную і сімфанічную музыку, пра самадзейную і эстрадную песню. І ўсё гэта творы не толькі беларускія, але і расейскія, амерыканскія, нямецкія, польскія, чэшскія і г.д. Натуральна, бадай, ніводзін паважаючы сябе меламан не адчуў бы поўнага задавальнення, каб яго ная кніжная калекцыя аб музыцы мела якіясьці прарэхі. І вось сёння "Нотны аркуш" вырашыў пазнаёміць вас з фальклорным узорам сваёй кнігарні.

Як сказана ў падзагалоўку кнігі, гэта песеннік. Тут пададзена 50 тэкстаў і ноты да іх найбольш папулярных твораў беларускай фальклорнай лірыкі. Наўрад ці знойдзецца ў Беларусі чалавек, які, сапраўды, не чуў, скажам, той песні, што дала назву зборніку, або, напрыклад, песень "Вяне рута", "Рэчанька", "Чабарок", "А ў полі вярба" ды іншых. Гэтыя цудоўныя ўзоры народнага мастацтва перажылі і віхуры урбанізацыі, і электрыфікацыю, і калектывізацыю... І сёння гэта не толькі песні бацькоў ды дзядоў, а песні сучаснай моладзі. Нядзіўна, што ад 20-тысячнага накладу гэтай кніжкі ў хуткім часе ў крамах не засталося і следу.

Як вядома, фальклорная песня праз сваё доўгае жыццё страчвае імёны аўтараў. Але не заўсёды.

Скажам, у папулярнай багдановічаўскай "Зорцы Венеры" засталося невядомым толькі імя кампазітара. А славутыя ды сапраўды народныя "Ручнікі" данеслі да нас імёны аўтара музыкі (Мікола Пятрэнка), і паэта (Вера Вярба).

Тое самае можна сказаць пра любімую ў народзе "Ой, мяцеліца" (музыка М.Шуміліна, словы А.Дзеружынскага). Як і ў кожнай народнай песні, тут таксама выпрацаваліся ўжо розныя варыянты выканання. Часам можна пачуць у рэфрэне "ехаць з любым да сяла", а бывае "ехаць з мілым да сяла".

Што датычыць уласна кампаноўкі кнігі, дык яе нельга назваць надзвычай арыгінальнай. Бо хоць тэматычна ўсе песні маюць адну характарыстыку, але ж іх можна было б згрупаваць па настраёвых асаблівасцях, узроўню фальклярызацыі і г.д.

Тым не менш пэўную вагу надае зборніку прадмова вядомага беларускага паэта Ніла Гілевіча "Песні пра бясцэнны дар жыцця", якая ўводзіць чытача ў свет нацыянальнай фальклорнай лірыкі.

Прыгожа аздабляюць кнігу застаўкі і малюнкі мастака Уладзіміра Сытчанкі, два з якіх вынесены і на тытульны ды зваротны бакі супервокладкі.

Трэба сказаць яшчэ, што гэты песеннік адносіцца да разраду мініяцюрных выданняў і выкананы мінскім паліграфкамбінатам імя Якуба Коласа на высокім тэхнічным і мастацкім узроўні.

Думаецца, менавіта такія выданні могуць выдатна прапагандаваць беларускі фальклор, выхоўваць пачуццё нацыянальнага гонару і натхняць маладое пакаленне беларускага адраджэння на высакародныя ўчынкі дзеля Бацькаўшчыны.

Адна прэтэнзія да выдаўцоў: калі ўжо ясна відаць, што 20-тысячны наклад беларускай кнігі будзе дэфіцытным, трэба навучыцца аператыўна рэгуляваць яго і рашацца на паўторныя выданні, на дадатковыя тыражы. Да гэтага нас абавязвае не толькі выгадны разлік, але і звычайнае сумленне беларускага інтэлігента.

Пятрусь Арцымовіч.

## Ліставанне

КАКу – клубу аматараў "Кіно" (в. Лазавая Харкаўскай вобласці): у "Чырвонай змене" друкаваўся і фотаплакат "Кіно" (13.01.1990), і крытычная рэпліка на няўдалыя гастролі гурта ў Менску (17.06.1989). Што да пошукаў патрэбных вам экземпляраў і перасылкі іх, дык рэдакцыя проста не можа гэтым займацца.

Д.ЭПШТЭЙНУ (г.Пінск): На вялікі жаль, Дзмітрый, надта многа артыкулаў даслалі нашыя пазаштатныя аўтары з нагоды смерці Фрэдзі Меркуры. Усе яны былі прыблізна адной якасці, таму мы аддалі перавагу адзінаму крытэрыю — храналогіі паступлення. Калі ж гаварыць пра вашае імкненне займацца музычнай крытыкай, дык пачынаць, відаць, варта не з кампілятыўных матэрыялаў, а з самастойнай распрацоўкі пэўнай тэмы. Дый кампіляцыі трэба рабіць рупліва, бо той жа Фрэдзі Меркуры, напрыклад, нарадзіўся не ў 1945 годзе, як вы пішаце, а ў 1946.

А.ПАДЛЕСКАМУ (г.Менск): Цалкам разумеем тваё патрабаванні да "Нотнага аркуша", Андрусь, але, здаецца, беларуская музыка тут і без таго не ў занядбанні. Выключыць жа зусім лепшыя сусветныя ўзоры толькі таму, што пра іх пішуць многія іншыя выданні, нам уяўляецца немэтазгодным, бо наш прынцып такі: беларуская музыка разглядаецца менавіта ў кантэксце лепшых сусветных узораў. Што датычыць тваіх прапаноў у гіт-парад радыё "Свабода", дык яны былі улічаныя і разгледжаныя непасрэдна ў эфіры.

## Новае імя

# Каралі рытмаў

Англійская моладзь большасцю сваіх галасоў зацвердзіла на пасаду новага дыскатэчнага ідала забойны дуэт "КЛФ". І калі спачатку, магчыма, не было кворуму, дык, мяркую, пасля паказу тандэма ў перадачы "Еўропа плюс" па ЦТ нашы тынэйджэры выкажуць сваю падтрымку, і — кворум будзе поўны. Яшчэ б, іхні шлягер "Які ўзрост у кахання" красаваўся ва ўсіх гіт-парадах, а "Тры гадзіны назаўсёды" наогул з'явіўся ў табліцы яшчэ перад сваім афіцыйным выпускам. Сам жа дуэт наўрад ці з кімсьці зблытаеш, бо да поўнага чаду на сцэне здолеў дадацца феерверк ад ззяючых, як бенгальскія агеньчыкі, гітар. І здаецца, што вось-вось з іскры ўзгарыцца полымя. А самі віноўныя шоу выглядаюць, быццам шахцёры, якія толькі што выйшлі з забою, бо апрануты яны ў робы і каскі з ліхтарамі. І музыка ў іх такая ж забойная — страшна, аж жах.

Назву таксама адкапалі арыгінальную. КЛФ — гэта абрэвіятура ад англійскага "Каралі нізкіх частот", якімі з'яўляюцца Біл Дрэманд і Джымі Каці. Гэтых хлопцаў да таго ж нараклі "тварцамі новага брытанскага гучання". Ім таксама нельга скардзіцца на хвалебныя водгукі друку. Іхні поспех даказвае, што Біл і Джымі сваёй экстраардынарнай музыкай цудоўна задаволілі ўсе чаканні публікі, якая жадае чаго-небудзь свежанькага пасля ўжо трохі надакучыўшага чыстага гіп-гопа. Да таго ж, яны на некалькі гадоў апярэдзілі моду на музыку рэйв, яшчэ ў 1987 годзе запісаўшы "Уладара часу" (у гэтай кампазіцыі аб'ядналіся дыскарытмы са стылістыкай рока). Тады яны яшчэ не называліся "КЛФ", назва з'явілася ў 1990 годзе. Музыканты робяць эксперыменты не толькі ў галіне гуку, але ахвотна здымаюць фільмы і нават з'яўляюцца аўтарамі кнігі. Гэта дапаможнік, дзе даюцца жартоўныя парады, як змясціць свой гіт не інакш, чым на першае месца гіт-парада. Іхні нядаўні фільм "Белы пакой" (такая ж назва і ў вядомага альбома) прадстаўляе хлопцаў у пошуках сэнсу жыцця. Пусты белы пакой у фільме сімвалізуе канец вандровак і канец самога фільма. Новы ж альбом будзе мець назву "Чорны пакой", ну а чарговы я б параіў ім назваць "Бурштынавы пакой", бо ў пошуках апошняга і заключаны для многіх зараз сэнс жыцця. Праўда, цяпер супер-дуэту, здаецца, не да яго. Яны заклапочаныя здымкамі іхняга кліпа "Апошні цягнік у зону транса". Планаў і думак гэтыя спецыялісты здзіўляць маюць дастаткова, і таму невядома, чаго ад іх можна чакаць. Усе дыскатэкі знаходзяцца напагатове: магчыма "на-гара" "КЛФ" выдадуць яшчэ пару самародкаў.

Кастусь Вакуленка.

## Фанатэка

"БАЙМ"
"БЕРАЖЫ МЯНЕ"
Віфон, 1986

Польскі ансамбль "Байм", папярэдні альбом якога анатаваўся ў 188-м выпуску "Нотнага аркуша" з перавернутым па віне нашага мантажора фотаздымкам вокладкі, зноў гасцюе ў нашай "Фанатэцы". Хочацца спадзявацца, што гэты дыск (ён трэці па ліку ў дыскаграфіі "Байма") нам ніхто не перашкодзіць прадставіць чытачам без прыкрых памылак.

У параўнанні з "Мёртвай вадою" над кружэлкай "Беражы мяне", якая запісвалася праз два гады, гурт працаваў у істотна змененым складзе. Натуральна, касцяк калектыву захаваўся: гэта вакалістка і аўтарка тэкстаў Беата Козідрак, клавішнік і кампазітар Яраслаў Козідрак, вакаліст, кампазітар і мастацкі кіраўнік Анджэй Петрас.

Але замест басіста Марэка Макуха ў ансамблі з'явіўся Роберт Козак, гітарыста Генрыка Мазурэка замянілі двое – Гжэгаж Плеха і Дарыюш Ліпіньскі, а за бубнамі Богдана Тхажэўскага змясціў Яраслаў Прушкоўскі, які адразу ж выявіў і кампазітарскія здольнасці (кампазіцыя "Кароль, мой кароль").

Трэба сказаць, што гурт пачынаў сваю кар'еру як пастаўшчык завадных супер-гітоў на музычны рынак, і акурат альбом "Беражы мяне" вярнуў яму гэтую рэпутацыю, замацаваў славу ў абраным амплуа.

Прыгадаць хоць бы вострую, дынамічную, поўную адкрытай энергіі кампазіцыю "Плыве ў нас гарачая кроў". Ёй і пачынаецца альбом, задаючы бадзёры настрой.

Праўда, нельга катэгарычна сцвярджаць настраёвую аднастайнасць кружэлкі. Зусім іншая танальнасць ужо ў наступным творы – "Два сэрцы, два смуткі", пра што сведчыць і сама назва.

Неверагодным унутраным запалам, драматычнай напружанасцю і, гэтак мовячы, сюжэтнай завершанасцю характарызуецца твор "Дыямент і соль".

Калі казаць пра мастацкую аздобу альбома, дык хоць і нельга не адзначыць эфектнае ейнае вырашэнне мастаком і фатографам Анджэем Тышко, але шкадаванне выклікае тое, што дыск выпадае з канцэптуальнай аздобы іншых кружэлак, не захаваны тут і фірменны лагатып назвы гурта, што яшчэ праз два гады выправіць Марыя Ігнатовіч.

"ПІНК ФЛОЙД"
"МУР"
2ЛП, СіБіЭс, 1979

Творчасць брытанскага ансамбля "Пінк Флойд", як класічны ўзор рок-музыкі, шырока вядомая нашым чытачам. Але сёння мы хацелі б падкрэсліць значэнне аднаго з лепшых альбомаў калектыву, які мае назву "Мур". І дапаможа нам у гэтым Караль Маеўскі з польскай газеты "Штандар Млодых":

"У рок-музыцы канца 70-х пэўны час панаваў нейкі застой. З'яўляліся новыя калектывы, выдаваліся някепскія, з добрым выканаўчым узроўнем альбомы, але неставала свежасці, спантаннасці або, як прыгожа кажуць, натхнення. Праўда, і ў 70-х ёсць што ўспомніць – з'яўленне новай хвалі ці панк-рока, – калі ад 1975-76 гадоў гэтыя напрамкі захапілі ўсю Еўропу.

Панк-рок прайшоў эвалюцыю тыповую для ўсіх наватарскіх пачынанняў у мастацтве. Само жыццё адкінула наноснае ў ім, і засталіся гурты, якія ў абедзвюх галінах — музычнай і, гэтак мовячы, ідэалагічнай — маюць шмат што сказаць.

Нью-вэйв, якая сфарміравалася пасля панк-рока, не несла ў сабе такога запалу эмоцый, як папярэднія напрамкі, але больш засяроджвалася на музычных ідэях.

Вяртаючыся да першаштуршка нашай рэцэнзіі, мы ўжо можам свядома асэнсаваць, у які час выбухнула творчасць "Пінк Флойд". Гэта было дзесяцігоддзе, калі не толькі фаны гэтай групы, але і ўсе, хто любіць добры рок, усвядомілі захапляючы эфект непасрэднага ўдзелу, бачання, адчування, як нешта ствараецца на тваіх вачах.

"Амагама", "Атамнае сэрца маці", "Цмяны бок месяца", "Шкода, што цябе тут няма", "Мур" – гэта назвы кружэлак, якія стабільна ўвайшлі ў гісторыю рок-музыкі. "Мур", бадай, як мэта ўсяго творчага шляху.

Мяркую, што толькі чатыром брытанскім рок-гуртам удалося ў пэўным сэнсе запанаваць над часам. Музыкі "Бітлз", "Пінк Флойд", "Кінг Крымсан" і "Мудзі блюз", здаецца, знайшлі тую "залатую сярэдзіну", калі, нягледзячы на пэўны эклектызм, ніводзін з музычных напрамкаў не страціў сваіх вартасцей. Творы кожнага з гэтых гуртоў выразна пазначаны адной характэрнай рысай – гуманізмам. Слухаеш гэтую музыку і заўсёды бачыш людзей – музыкаў, якія шукаюць сапраўднага паразумення са слухачамі, каб разам абмеркаваць праблемы, важныя для абодвух бакоў.

У адным выпадку ў такой музыцы свядомасць нясе гук, у другім – слова. Значыць, паразуменне адбудзецца".

"МЯСЦОВЫ ЧАС"
"СЛОТА"
Студыя Гэнюся Шэмета, 1989

Маючы ўжо тры альбомы славутай рок-зоркі з Полацка, мы ўсё ж вернемся да першай праграмы, хоць другую рэцэнзавалі ажно год таму, 14 лістапада 1990 года. Гэта варта зрабіць ужо таму, што менавіта з песнямі альбома "Слота" калектыў упершыню вылез на вінілавую ўсесаюзную арбіту (маем на ўвазе 2ЛП "Гіт-парад "Беларускай маладзёжнай", дзе "Мясцовы час" змясціў пару сваіх твораў).

Першы альбом калектыву – гэта ж і першыя ягоныя супер-гіты: "Наш шлях", "Вартаўнік", загалоўны твор праграмы і г.д.

Увогуле, касетная версія альбома (45 хвілін) складаецца з адзінаццаці вострых – як рытмічна, гэтак і тэматычна – кампазіцый. Па-за названымі гэта "Папера – ваш сцяг", "Установа", "Зоркі", "Крок за крокам", "Новы агонь", "Хопіць спаць", "Ісус" і "Слава слаўных".

Над запісам праграмы "Слота" рок-гурт "Мясцовы час" працаваў у наступным складзе: Алесь Кузьмін (вакал, гітара), Валеры Драко (бубны), Алесь Свідрыцкі (гітара), Уладзіслаў Макас (бас-гітара), Алесь Аркуш (тэксты).

Стылістычна музыку "Мясцовага часу" некаторыя каментатары адносяць да гард-рока, іншыя – да пост-панка, але нельга не ўзгадаць той тэрмін, які нарадзіўся непасрэдна ў нас у Беларусі – стод-рок. Бо гэтая падпарадкаваная стыхійным эмоцыям незакамплексаваная музыка, поўная жывой энергіі і аранжыраваная, паводле найноўшых гучанняў, мае ў сабе рысы і таго, і другога напрамкаў, а па сутнасці сягае да паганскіх першакрыніц беларускай культуры. Гэта і ёсць стод-рок, сутнасць якога ўжо дастаткова часта вызначалася ў прэсе.

Гэтак мовячы "па стоду", зроблена і мастацкая аздоба альбома, над якой працаваў фотамастак з Наваполацка Ігар Супранёнак.




*Хочаце пабываць на сучаснай іспанскай ферме-школе? Калі згодны— трымайцеся мяне. Я правяду вас па ўсіх цікавых сцяжынках, пакоях і майстэрнях школы-інтэрната «Млын-Лекрын», які знаходзіцца на поўдні Іспаніі, у правінцыі, што спрадвеку звалася Андалузіяй.*

# «МЛЫН-ЛЕКРЫН» і ягоныя насельнікі

## Назавіце карову Андрэем Смірновым!

Тое, што школа-інтэрнат знаходзіцца ў будынку былога рачнога млына, кідаецца ў вочы не адразу. Увайшоўшы на тэрыторыю навучальнай установы, вы спачатку заўважаеце велічэзны самалёт, пабудаваны з бамбукавых вудзільнаў. Побач — падводная лодка з таго ж самага матэрыялу. Лятальны апарат ды субмарына праглядаюцца наскрозь, нібыта расейскі сыр, і жоўтыя рэбры канструкцый галосяць метафарамі Сальвадора Далі й Юрася Гуменюка адначасова.

Сюррэалістычнага ды авангарднага на тэрыторыі інтэрната — процьма. Школьная карова, напрыклад, завецца Пасіянарыяй. У гонар Далорэс Ібаруры — колішняй правадыркі іспанскіх камуністаў. Інтэрнацкія дзверы скрозь абпэцканыя вучнёўскімі фарбамі, а некаторыя з іх — наскрозь працятыя чаравічкамі пачынаючых каратыстаў. Бадай, адзіная цэлая рэч у інтэрнаце— пажарны шланг.

Можа вы ўжо вырашылі, што я вас прывёў не ў вясковую школу, а ў спец-інтэрнат для непаўналетніх асуджаных? Не, не і не! Акурат у школу. Але ў школу, якая не падаўляе дзіцячай ініцыятывы, а наадварот — дае ёй праяўляцца ў самых розных, нават вельмі адважных формах.

Усе аб'явы, плакаты, расклады, метадычныя дапаможнікі выконваюцца тут рукамі дзетак. Сікась-накась, з граматычнымі памылкамі, але менавіта самімі дзецьмі. Узяць хаця б плакат-стэнд «Сёння ў вольны час», які мае эпіграф: будзьма весяліцца! Гэта даўжэзны спіс прапануемых мерапрыемстваў: акрабатыка, пінг-понг, настольныя гульні, праслухоўванне музыкі і г.д. Пад кожным з відаў дзейнасці пакінута месца, куды вучні ўпісваюць свае прозвішчы. Ведаеце, у якой графе больш за ўсё дзіцячых аўтографаў? У графе — масаж. Аказваецца, вельмі папулярны сярод выхаванцаў гэты нянаскі від правядзення вольнага часу!

Як паведаміла дырэктарка фермы-школы, дзеці маюць вольны час чатыры разы на дзень, і ніхто з дарослых не мае права ўказваць ім, чым займацца.

## Дзверы ёсць, замкі таксама. Ключоў няма

На ферме-школе вучацца і працуюць каля васьмідзесяці дзяцей ва ўзросце ад пяці да чатырнаццаці гадоў. Школа мае статус інтэрната, бо дзеці тут яшчэ і жывуць. А дакладней сказаць— вучацца жыць. У вясковых умовах і твар у твар з прыродай. Большасць дзетак прывезены сюды з гарадоў, дзе жыхары ніколі не бачылі ані жывой каровы, ані таго, як гэта карова дае малако. 15000 песет (каля 150 даляраў ЗША. — А.С.) у тыдзень плацяць бацькі за знаходжанне свайго «нашчадка» ў інтэрнаце. Інтэрнат— гэта кааператыўнае прадпрыемства, створанае на сродкі дваццаці настаўнікаў.

Як прызналася выкладчыца хіміі Тэрэса Посо Льёрэнтэ, яна атрымлівае каля тысячы даляраў у месяц, але нярэдка яе заробак ідзе на набыццё абсталявання для ейнай майстэрні. Тэрэса загадвае майстэрняй, у якой дзеткі вучацца рабіць з прыроднага матэрыялу мыла, крэмы, парфуму, лекі і шмат іншага.

Майстэрня Тэрэсы знаходзіцца ў баку ад галоўнага корпуса, нагадвае беларускую драўляную хатку-чатырохсценку. Пасярэдзіне вялікай залы— сталы-парты, уздоўж сцен— паліцы з прабіркамі, колбамі і іншым хімічным посудам. Усе слоікі ды бляшаначкі маюць этыкеткі, але і без іх



зразумела, што хаваецца ўнутры: вадкае мыла або кменныя прыправы для супу.

У майстэрні знаходзіцца шмат каштоўных рэчаў, але зачыняецца яна на звычайную клямку. Зрэдку выкарыстоўваецца і свірнавы навясны замок. Але кожны ведае, што ключ ад яго— у дзіравым старым гаршчэчку, які стаіць побач з ганкам і з'яўляецца, бадай, адзіным «вартаўніком» на тэрыторыі фермы-школы.

## Ад рачнога млына — да сонечных батарэй

Майстэрня Тэрэсы — не адзіная тут. У некалькіх метрах ад яе туліцца да старых дрэў майстэрня, у якой дзеткі вучацца рабіць сыры. Увесь тэхналагічны працэс сыраварэння апіраецца на народныя сродкі вытворчасці: керамічныя збаны (дзе закісае малако), саламяную стужку (у якую закладваецца ўжо кіслае малако), нацiскны прэс, фармавальныя цiскі, ільняное радно. Вось і ўсе прылады, патрэбныя для вырабу харчовага прадукту, без якога не абыходзіцца ў Іспаніі аніводная вясковая сям'я. Як трапна заўважыў Сальвадор Далі: «Калі ў краіне менш як пятнаццаць гатункаў сыру— эканоміка гэтай краіны знаходзіцца ў глыбокім крызысе». Якую краіну меў на ўвазе мэтр?



А яшчэ на ферме-школе ёсць майстэрня, дзе знаходзіцца традыцыйныя сельскагаспадарчыя прылады: матыкі, вілы, граблі, секачы і г.д. Як дзве кроплі падобныя на нашыя— беларускія.

Прылады працы, дарэчы, выконваюць не музейныя абавязкі— імі карыстаюцца падчас апрацоўкі школьных сотак. Як паведаміла тая ж Тэрэса, ферма-школа не займаецца вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі на продаж, але забяспечвае свае сто жыхароў агароднінай на працягу навучальнага года. Пры гэтым дзеткі атрымліваюць цудоўную магчымасць прасачыць увесь працэс севазвароту і навучыцца адрозніваць ядомыя карэньчыкі ад непрыдатных да яды вяршкоў і наадварот.

Архаічнасць вядзення сельскай гаспадаркі на фермешколе зусім не выключае скарыстання дасягненняў НТР. Лепшым доказам гэтаму з'яўляюцца сонечныя батарэі, якія награюць для інтэрната ваду.

Вось так, надзвычай сімвалічна, ужываюцца на вучнёўскай ферме былое і будучыня, традыцыйнасць і наватарства.

## «Дзяўчынкі не павінны саромецца спаць разам з хлопчыкамі», —

заявіла Тэрэса, калі мы завіталі ў дзіцячыя адпачывальні.

Інтэрнацкая адпачывальня разлічана на дзесяць чалавек. Ложкі — двух'ярусныя і выраблены рукамі настаўніка працы і яго вучнямі.

Бацькі супраць таго, каб хлопчыкі жылі ў адным пакоі з дзяўчынкамі, але педкалектыў прытрымліваецца іншага меркавання і дзеці павінны вучыцца суіснаваць у бытавых умовах. Бо менавіта ў дзіцячым узросце толькі і можна плённа займацца палавым выхаваннем. Словам «мачыста» (хатні тыран. — А.С.) яшчэ вельмі нярэдка характарызуюцца ў сучаснай Іспаніі мужчыны, якія бачаць у сваёй жонцы толькі хатнюю гаспадыню, толькі пакорлівую выканаўцу ўсіх мужчынскіх прыхамацей...



* * *

Вось і падышла да скону наша з вамі вандроўка па ферме-школе «Млын-Лекрын». На жаль, абмежаванасць газетнай плошчы не дала магчымасці аўтару распавесці аб тым, як праце тэатральная майстэрня школы, апісаць камінную залу, дзе выхаванцы інтэрната збіраюцца ў халодныя зімовыя вечары, больш падрабязна пазнаёміць чытача з выхавальнікамі-настаўнікамі, якія знешне выглядаюць амаль як свае выхаванцы, бо носяць тыя ж самыя шорты ды спартыўныя кашулькі. Тым нашым чытачам, хто хоча даведацца пра жывёлагадоўчую ферму інтэрната і многае-многае іншае, я прапаную адрас маіх тамтэйшых сяброў. Яны вельмі спадзяюцца знайсці сярод беларускіх вясковых педкалектываў сяброў і аднадумцаў. Адгукніцеся, зацікаўленыя!

Андрэй Смірноў.

**P.S.**

*АДРАС ШКОЛЫ:*
*«Granja-escuela «EL Molino de Lecrin»»*
*Aptdo 13, DURCAL*
*18650 GRANADA*
*ESPAÑA*

# Што можа быць горш за смерць?

Джон КРЫСТОФЕР (Англія)

*Касмічны баявік*

Капітан "Палакета" Сцюарт быў кволым светлавалосым чалавекам з тонкімі, непрыемнымі рысамі твару. Калі Логан канчаткова апрытомнеў, ён выявіў, што знаходзіцца ў капітанскай каюце. Сцюарт папрасіў прабачэння:

— Госці ў нас бываюць рэдка, і яны ніколі не застаюцца надоўга. Мабыць, не вельмі прыемны для вас візіт, га?

Логан кіўнуў.

— Мне не хацелася б прычыняць вам непрыемнасці, але баюся, што прыйдзецца задаць вам некалькі пытанняў.

— Так, безумоўна. Цяпер мне крыху лепш.

— Пачнём спачатку, містэр Логан, — сказаў Сцюарт. — Вы падарожнічалі адзін?

Логан ледзь памарудзіў з адказам:

— Не, са сваёй жонкай.

— Прабачце мне. Не маглі б вы расказаць мне, што іменна здарылася?

— Вам жа вядомы звычайныя правілы бяспекі? — спытаў Логан. — Пасля адлёту з Зямлі для ўсіх пасажыраў у першую чаргу праводзяць заняткі на выпадак аварыі. Неабходна было надзець скафандр, а я не меў магчымасць зрабіць гэта з усімі разам. У мяне была мігрэнь. Яна пачалася ў момант старту і на некалькі дзён выбіла мяне з каляіны. Прыйшлося вучыцца самому. Я ўзяў скафандр і вярнуўся ў сваю кабіну, каб надзець яго.

Сцюарт кіўнуў. Ён то сціскаў, то няспешна паціраў рукі.

— Раптам пагасла святло, але гэта не занепакоіла мяне. Я ўжо быў у космасе і здагадаўся, што гэта паніжэнне магутнасці. Я чуў чалавечую мову, смех; дзесьці крычала жанчына, але большая частка людзей, здавалася, разумела, што тут адбываецца. Затым пачулася нейкае шыпенне — і галасы прапалі. Проста быццам нехта павярнуў выключальнік, і за адну секунду іх не стала. Я пайшоў у цэнтральны салон, дзе пакінуў жонку, і пры святле Зямлі, пранікаючым скрозь празрыстыя транспексавыя вокны, убачыў плаваючыя целы. Усе людзі былі мёртвымі.

Я адразу ж выключыў радыёаўтамат трывогі і кінуўся паглядзець, ці не застаўся ў жывых хто-небудзь з членаў экіпажа... Але на ўсім караблі не было ніводнай жывой душы. Я вярнуўся ў цэнтральны салон і там знайшоў метэарыт. Ён прабіў адну з паралонавых канап.

— Так, — сказаў Сцюарт, — можна сабе ўявіць. Значыць, па-вашаму, карціна зразумелая? Штосьці вывела са строю галоўныя генератары і, вядома, супрацьметэарытную ахову. І выпадкова ў тую хвіліну, калі запасныя генератары яшчэ не ўключыліся, метэарыт прабіў транспексавае акно ў цэнтральным салоне. Паветра з салона імгненна знікла. Вы выратаваліся толькі таму, што на вас у гэты час быў скафандр.

— Але, — сказаў Логан. — Так усё і было.

— Вы разбілі каўпак радыёаўтамата адразу ж, як толькі ўявілі сабе, што здарылася?

— Вядома.

Сцюарт узяў цыгару, раскурыў яе і адкінуўся назад.

— Чым вы займаецеся, містэр Логан? — спытаў ён.

— Мая прафесія? Інжынер на адной з касмічных станцый. Экватар Трэці.

— А гэта паездка? Адпачынак?

— Увогуле так. Мая жонка захацела перамен.

— Вы даўно жанатыя?

Логан глянуў на капітана:

— Я лічу, што вы будзеце пісаць у сваім данясенні толькі аб неабходным, капітан Сцюарт. Вы не забылі, што цела маёй жонкі яшчэ плавае там, на "Астарце"?

— Калі мы будзем у Дэтройце, вы будзеце мець магчымасць падаць афіцыйную скаргу, — сказаў Сцюарт. — А да таго часу я буду задаваць вам неабходныя пытанні. Як даўно вы жанаты?

Логан падціснуў вусны:

— Пяць гадоў.

— Работнікі касмічных станцый кожны чацвёрты месяц — у адпачынку. Іх жонкі тры месяцы з чатырох маюць магчымасць дзейнічаць самастойна. Такое здарылася і з місіс Логан?

— Камандзір патрульнага карабля мае шырокія правы, і допыт уваходзіць у яго абавязкі, — адказаў Логан. — Але вы ўжо пераходзіце ўсе межы. — Ён узняўся з паралонавага крэсла. — Прашу прабачэння.

Сцюарт выпусціў дым.

— Не кранайцеся з месца, Логан. Я збіраюся вас арыштаваць. Як толькі я вас арыштую, мне больш не спатрэбіцца задаваць вам пытанні. А я хачу знайсці апраўданне таму, што вы зрабілі. На Зямлі вас, вядома, будуць судзіць, але да яе яшчэ пяць дзён шляху.

Логан загаварыў халодным, роўным тонам:

— Вы збіраецеся мяне арыштаваць? У чым жа мяне абвінавачваюць?

— Вам прад'яўляюць шмат абвінавачванняў. Дакладней, семдзесят восем абвінавачванняў у забойстве.

— Вы звар'яцелі.

— Намер быў добры, Логан. Ва ўсякім разе, усё было старанна спланавана. На касмічнай станцыі няцяжка раздабыць метэарыт адпаведнага памеру. Ён быў схаваны ў вашым чамадане разам з дробнымі асколкамі транспекса. Вы хітрасцю пазбеглі касмічных вучэнняў, спасылаўшыся на мігрэнь, і на гэтай падставе ў неабходны час узялі скафандр у сваю кабіну. Адправіўшы жонку ў цэнтральны салон, вы ў гэты час падклалі ўзрывучатку пад транспексавае акно.

Затым вы вярнуліся ў сваю каюту і, надзеўшы скафандр, чакалі да таго часу, пакуль не грымнуў выбух. Тады вы прайшлі ў энергетычны адсек і выключылі галоўныя генератары, каб стварылася ўражанне, быццам ахоўны экран прабіты метэарытам.

— Напэўна, ваша праца развівае ўяўленне, капітан. Але не ў вельмі прыемным напрамку, — холадна сказаў Логан.

— Ваша бяда ў тым, што вас вельмі паглынуў клопат аб уласнай скуры, — адказаў Сцюарт. — Каб застрахавацца ад усякіх нечаканасцей, вы ўлезлі ў свой скафандр задоўга да выбуху — магчыма, за дзесяць мінут. Сігнал бедства быў дадзены ў 5.07. Мы падабралі вас у 10.59. Кожны кіслародны балон скафандра разлічан роўна на адну гадзіну. Калі б вы сапраўды надзелі касцюм выпадкова, то павінны былі выкарыстаць каля шасці балонаў. Але вы выкарысталі не шэсць, а ўсе сем!

Логан усміхнуўся.

— І гэта ўсё?! Сапраўды — я ўвёў вас у зман наконт таго, колькі часу прайшло ад таго моманту, калі я надзеў касцюм, і да таго, калі метэарыт трапіў у карабель. Магчыма, гэта працягвалася каля чвэрці гадзіны.

Сцюарт глянуў на яго.

— А вы хутка разумееце, праўда? Але на гэты раз трапілі ў няёмкае становішча. Перад тым, як знішчыць "Астарту", я папрасіў хлопцаў агледзець разбітае акно са знешняга боку. — Ён выцягнуў скрынку стала і дастаў разбітыя кавалкі транспекса. — Гэтага дастаткова для таго, каб упэўніцца — гэта было не сутыкненне, а выбух.

Логан глянуў на асколак транспекса.

— Яна была патаскухай, — сказаў ён. — Хацела правесці адпачынак на Марсе, таму што ён быў там. Я даведаўся, што ён вырашыў вандраваць разам з намі на "Астарце". Гэта быў адзіны шанс адпомсціць ім абодвум разам!

Сярод прысяжных засядацеляў узвышаўся суддзя-робат. Адразу ж пасля вердыкту Логана адправілі назад у камеру, дзе ён сядзеў, гледзячы на пустую сцяну, і выслухаў прысуд, — яго абвясціў рэзкі механічны голас, які выходзіў з невялікай чорнай скрынкі, устаноўленай у цэнтры столі.

Голас сказаў: "Эміль Логан, вы прызнаны вінаватым у наўмысным забойстве. З-за рэўнасці вы вырашылі забіць сваю жонку і яе палюбоўніка і ў пагоні за гэтым, не вагаючыся, знішчылі семдзесят восем іншых жыццяў.

Пакаранне смерцю было адменена ў дваццатым стагоддзі. Выйсце знайшлі, адкрыўшы магчымасць падарожнічаць праз час.

Эміль Логан, — працягваў голас, — ваша злачынства такое жахлівае, што падобных яму мы амаль не знаходзім у нашых запісах. Наколькі мы можам меркаваць, для вас выбрана адпаведная кара. Вам не збіраюцца паведаміць загадзя аб пункце прызначэння ў часе і прасторы, які быў выбраны для вас".

Не маючы сілы стрымаць сябе, Логан крыкнуў:

— Але чаму? Чаму вы мне нічога не гаворыце?..

"З гэтага моманту, — працягваў робат, — вы выганяецеся з нашага стагоддзя. Хутка камера, як заўсёды, напоўніцца асобым газам, і вы заснаеце. Вам будзе зроблена гіпнаўнушэнне, каб вы нікому не расказалі, адкуль вы прыбылі.

Вы будзеце апрануты ў адпаведнасці з тамтэйшай модай і атрымаеце некаторую колькасць розных дробязей, якія, напэўна, вам спатрэбяцца. У выпадку неабходнасці вам будзе ўнушана гіпнозам веданне мовы, якой вам прыйдзецца карыстацца. Ачуняўшы, вы апыняцеся ў мінулым, але ваша цяперашняя памяць захаваецца.

Эміль Логан, вы выгнаны з дваццаць другога стагоддзя".

Усё яшчэ гледзячы ўверх, ён пачуў слабае шыпенне — гэта газ пранікаў праз уваходныя клапаны камеры. Ён улавіў характэрны пах і — заснуў.

Людзі. Яны акружалі яго, чалавечую пясчынку, суцэльнай адзінай масай, якая несла яго разам з усімі. Тунель. Лесвіцы, якія вядуць уверх. Яму ў твар павеяла гарачымі, потнымі чалавечымі целамі. Ён быў апрануты ў дзіўнае адзенне з грубай тканіны, а замест звычайных кантактных лінз на носе былі прыладжаны два шкельцы, устаўленыя ў аправу.

Лесвіца прывяла яго да нечага, што нагадвала адкрытую залу. Вуліца, неверагодна шчыльны рух. Злева ён заўважыў кіёск, які гандляваў газетамі і часопісамі. Ён прабіўся да яго праз натоўп. Пашнарыў у кішэні, знайшоў дробязь, працягнуў руку цераз прылавак і ўзяў газету. Калі ён глянуў на яе, рукі ў яго задрыжалі.

Гэта была "Нью-Йорк геральд трыбун". 1954 год.

Людзі пачалі аглядвацца на яго, калі ён закрычаў.

Старонку вядзе П.Сіманаў.
Фотаэцюд С.Брушко.



# РУЖОВЫЯ РУЖЫ АЛЯКСАНДРА ДАБРЫНІНА

*"Фатаграфію "9×12"... на памяць" спявае ў сваёй новай песні І.Алеграва. Менавіта так, "9×12", мы вырашылі назваць і нашу новую рубрыку, у якой свае фатаграфіі разам з аўтографамі вам будуць дарыць "зоркі" сённяшняга дня — вядомыя спевакі і акцёры, мастакі і пісьменнікі, палітыкі і дзяржаўныя дзеячы. Дарэчы, героем гэтай старонкі можа стаць і кожны з вас, зразумела, толькі ў тым выпадку, калі вам удасца чым-небудзь здзівіць наша шэрае неўладкаванае жыццё. Паспрабуйце!*

Я ўпэўнена, што калі нашы чытачы (ды і не толькі нашы) бачаць яго твар па тэлевізары, яны адразу пазнаюць спевака, калі чуюць яго голас па радыё ці слухаюць касету, — таксама не памыляюцца. Але вось імя яго пакуль малавядома. "Мяне лепш ведаюць, як Светку Сакалову, чым як Аляксандра Дабрыніна", — сцвярджае Саша. Тым не менш даволі ўпэўнена заяўляе, што яго "зорка" ўжо разгараецца. Можа таму і ўпэўнена, што шлях гэты раней, да яго, ужо з поспехам прайшлі Аляксандр Барыкін, Аляксей Глызін, Аляксандр Буйноў — усе, кожны ў свой час, салісты папулярнага ансамбля "Вясёлыя рабяты".

**– Саша, нам, слухачам, здаецца, што ў "Вясёлых рабят" з'явілася традыцыя: выводзіць сваіх салістаў у самастойнае творчае жыццё...**

— Так, гэта сапраўды з боку нагадвае традыцыю. Але, згадзіся, не такую ўжо і дрэнную. Мне здаецца, што сёння кожны, хто прайшоў праз "Рабят", калі ўжо не складае гонар, то і не падводзіць нашу эстраду. Калектыву "Вясёлыя рабяты" ужо шмат гадоў. І кожны з нас за час працы ў ім па-свойму прывязаўся, палюбіў ансамбль, таму расставанне, зразумела, — гэта балюча. Але ў кожнага ёсць прычыны...

**– Аб сваіх ты гаварыць не хочаш?**

— Чаму? Я ўжо крыху болей за год не працую ў "Вясёлых рабятах". Я іх пакінуў раз і назаўсёды. Мы не спрацаваліся ні па адносінах ні па грашах. Я вельмі паважаю Паўла Якаўлевіча Слабодкіна за тое, што ён нешта з мяне зрабіў, але працаваць з ім болей не магу — гэта вельмі складана. У яго няма салістаў, у яго ёсць вясёлыя рабяты і ўсе аднолькавыя. Ну, калі, прабачце, саліст атрымлівае менш, чым бас-гітарыст, гэта ўжо ненармальна. Цяпер бы я ўжо ні ў якім выпадку і ні за якія грошы не вярнуўся. Навошта? Лепш быць Сашам Дабрыніным, чым салістам "Вясёлых рабят"...

**– Але, прабач, цябе ведаюць менавіта як саліста "Вясёлых рабят", а вось Саша Дабрынін...**

— Згодзен. Мяне ведаюць як Светку Сакалову, рыжага клоуна, але толькі не як Дабрыніна. На працягу трох гадоў на тэлебачанні штучна не давалі цітраў, хто я ёсць такі. Часцей можна было пачуць: "Вунь Светка Сакалова пайшла...". Рэдка хто гаварыў Дабрынін-малодшы...

**– Дарэчы, у цябе такое прозвішча. Да другога Дабрыніна, старэйшага, яно не мае дачынення?**

— Нават калі я скажу, што не мае, гэта яшчэ не значыць, што выйдзе інтэрв'ю і народ у гэта паверыць. Гэта трэба кожнаму гаварыць асабіста. Проста, ён Дабрынін-старэйшы, а я малодшы. Традыцыйна для нашай эстрады.

**– Табе даводзілася ўжо выступаць у Мінску?**

— З "Вясёлымі рабятамі". А асабіста... Я быў у Мінску год назад. Выступаў з песнямі на Беларускім тэлебачанні. Былі яшчэ Салтыкоў, Зінчук... Але гэты канцэрт чамусьці не транслíравалі, наколькі мне вядома. А я з задавальненнем прыязджаў і, спадзяюся, яшчэ прыеду ў Мінск. У такі горад можна прыязджаць...

**– Табе падабаецца Мінск?**

— Нічога сабе! Падабаецца?! Мінск — шыкарны горад, які ўваходзіць у чацвёрку лепшых у былой краіне. Што ёсць? Масква, Ленінград, Мінск і Кіеў.

**– Табе, Саша, больш бачна. Ты аб'ездзіў усю былую краіну. А як мінскі глядач?**

— Цудоўны глядач. Але я не магу з яго "спытаць", таму што пляцоўка Палаца спорту вялікая, кантакт маленькі (ішлі канцэрты "Песня-91". — М.Ш.). Каб у мяне быў радыёмікрафон, я б падняў усіх. А так "пасешся", як козачка на пэўным месцы, таму што шнур мікрафона каля пятнаццаці метраў. А публіка добрая. Я ўвогуле беларусаў люблю і гэта не камплімент. Нават калі па тэлевізары перадалі, што Беларусь у прынцыпе з намі, я быў, шчыра кажу, вельмі ўзрадаваны. Чаго, на жаль, не атрымалася з Украінай. Калі яна адзяліцца, мы страцім вялікую колькасць глядацкай пляцоўкі...

**– У кожнага, як гавораць, баліць сваё. Ты, Саша, гляджу, нядрэнна валодаеш палітычнай абстаноўкай...**

— Ну, справа ў тым, што тэлевізар працуе цэлы дзень, у мяне мама яго любіць глядзець.

**– Як ты лічыш, у цябе шмат паклоннікаў?**

— Я б не сказаў. Я магу табе адкрыць адзін маленькі свой сакрэт: мяне любіць народ той, хто не ў паклонніках. А калі мяне пачнуць любіць паклоннікі і народ адвернецца — крый божа.

**– А ўвогуле твая публіка – якая яна?**

— Дарослая публіка. Але на канцэрт да мяне прыходзяць і будуць прыходзіць людзі ад шасці і да шасцідзесяці гадоў. І гэта вельмі добра. Усе гавораць: "Дабрынін, чаму ў цябе няма моладзі, як вырazана?". Я адказваю: "Дарагія мае! Заўтра Ігар Мацета напіша песні пра хлопчыкаў, пра дзяўчынак і яны таксама прыйдуць да мяне" (Ігар Мацета — кампазітар і даўні сябра Сашы Дабрыніна. — М.Ш.). Але мне здаецца, што кожны спявак павінен мець свайго гледача, як ты сказала, "сваю публіку". І я з павагай стаўлюся да тых, хто яе мае. Скажам, глядач і слухач Сярова таксама ўжо дарослы, а вось на Лёшу Глызіна лепш ідуць шаснаццацігадовыя, ну, а публіка Сашы Буйнова — увогуле сталая.

**– У цябе ёсць надзейныя сябры?**

— Ігар Мацета.

**– Ён піша табе песні?**

— Не толькі ён, хаця яго песні мне падабаюцца асабліва. Шмат песень я купляю ў іншых кампазітараў. Цяпер усё прадаецца і купляецца — песні, аранжыроўкі. І гэта нармальны, здаровы бізнес. На Захадзе гэта ўсё робіцца цывілізавана: калі ўжо кампазітар прадае сваю песню, ён не мае права выконваць яе сам за спінай у спевака. У нас жа гэта звычайная з'ява. А зараз я працую толькі з Ігарам. Я раней спрабаваў працаваць і са Славам Дабрыніным і з Укупнікам. Нічога не скажу — яны цудоўныя кампазітары, але нешта не тое. А з Ігарам Мацетам у нас адносіны не "купі-прадай", а "я напісаў, а ты паспрабуй выканаць".

**– У цябе ёсць куміры на эстрадзе?**

— Ну, канешне. Любімыя мае спевакі — Філ Колінз, Пітэр Габрыэль. Гэта нават не зоркі. Зоркі гэта — Майкл Джэксан, Ціна Тэрнер. А Колінз, Габрыэль — гэта... З'ява. З ансамбляў мне падабаюцца "Пінк Флойд", "Куін".

**– А на нашай эстрадзе?**

— На нашай эстрадзе я магу толькі паважаць. Паважаць Лёшу Глызіна за прафесійныя спевы, паважаць Лявонцьева за яго энергаздольнасць і прафесіяналізм. Дарэчы, знайшоў адпаведнае слова — паважаю ва ўсім прафесіяналаў.

**– Гэтае слова да сябе ты адносіш?**

— Пакуль яшчэ не поўнасцю. Але прафесіяналізм — гэта жаданне і час. Першае ў мяне ёсць, ну, а другое, спадзяюся, ад мяне нікуды не ўцячэ...

**– Калі не ўпусціш.... Чаго я і нашы чытачы табе і жадаем.**

**Інтэрв'ю правяла Майя Шэндрык.**



*Парады "ЧЗ"*

# ЭКЗАМЕНЫ БЕЗ СТРЭСУ

*АД СЕСІІ — ДА СЕСІІ*

Зноў надышла яна, няўмольная, "вечназялёная" — сесія! Невялікім перапынкам у бестурботным (ды ці такім бестурботным у наш складаны час?) студэнцкім жыцці. Ліхаманкава гартаюцца старонкі падручнікаў, шамацяць лісты канспектаў. НЕ СПІ, СТУДЭНТ!

*Ці можна кіраваць эмоцыямі, стрымліваць нервовую гарачку? А калі магчыма, то як? Адзін са шляхоў — прывучыць мозг і цела расслабляцца па загаду.*

Спачатку некалькі агульных палажэнняў.

Расслабленнем можна займацца ўсюды, але пры ўмовах, што на працягу некалькіх хвілін вас не будуць турбаваць. Калі побач з вамі знаходзіцца тэлефон — адключыце яго. Калі ў пакой, дзе вы знаходзіцеся, могуць нечакана ўвайсці — павесьце на дзверы таблічку "Не турбаваць!". Калі вы ляжыце на канапе, абавязкова пастаўце будзільнік — можа здарыцца, расслабленне схіліць вас да сну. Сачыце, каб адзенне не вельмі аблягала вас, не замінала дыхаць. Расшпіліце гузікі, развяжыце шнуркі на чаравіках, зніміце цяжкія акуляры.

Заплюшчыце вочы і прыслухайцеся да свайго дыхання, да мяккіх свісцячых гукаў, якія суправаджаюць уваход і выхад паветра. Пераканайцеся, што вы "дыхаеце жыватом". На першым уздыху скажыце "адзін" і паспрабуйце ў думках ўбачыць лічбу 1. На выдыху вымаўце "расслабляюся", імкнучыся ўявіць гэтае слова напісаным. Працягвайце лічыць, пакуль не адчуеце спакой. У рэшце рэшт вымаўленне слова "расслабляюся" будзе выклікаць у вас патрэбную рэакцыю. Аднак метад лічбаў карысны толькі на пачатковым этапе падрыхтоўкі. Ён просты, але найвышэйшага эфекту не дае.

Канцэнтрацыя ўвагі патрабуе намаганняў. Асабліва цяжка сканцэнтравацца тым, хто адметны жывасцю розуму. Давайце звернемся па дапамогу да фантазіі. Уявіце, што галоўнай дзеючай асобай наступнага эпізоду з'яўляецеся вы.

Пачатак лета. Цёплы, сонечны дзень. Я стаю на невялічкім узгорачку, пад якім разгарнуўся цудоўны сад. Я адчуваю цеплыню сонца на твары. Сад патанае ў зеляніне, яркай і буйной. Ён так і прыцягвае да сябе, і я накіроўваюся туды па мармуровай лесвіцы. Спускаюся ўніз па прыступках і з кожным крокам адчуваю сябе ўсё больш супакоеным. Я на 18-й прыступцы, на 17-й, сваімі босымі нагамі адчуваю халаднаватую і гладкую паверхню мармуру... 16... 15... (павольна лічу на ўдыху), і чым ніжэй, тым больш расслабляюся.

Апошняя прыступка. У мяне пад нагамі цёплая мяккая трава, паветра напоена водарам кветак. Я падыходжу да статуі грэцкай багіні і дакранаюся да яе гладкай паверхні. Здаецца, што ў глыбіню дымчата-белага каменю, такога мяккага на вока і такога цвёрдага навобмацак, трапілі сонечныя праменi і сышліся недзе ўнутры.

Я саджуся каля берага возера і адкідваюся на мяккую і цёплую траву. Вакол цішыня. Мне хораша. Сонечныя промні сагрэюць маё цела. Я ляжу зусім адзін, і ў мяне няма ніякіх турбот і праблем.

Вось яшчэ адзін спосаб расслаблення для тых, у каго цяжка з уяўленнем. У аснове яго — уменне павольна і паступова здымаць мышачнае напружанне. На кожнай групе мышцаў патрэбна спыняцца не менш як 15 секунд.

Сканцэнтруйце ўвагу на мышцах ілба. Адчуйце, як яны вызваляюцца, цяплеюць. Цяпер спускайцеся трохі ніжэй: бровы, шчокі, мышцы вакол рота – ніжняя скіўіца можа крыху адвіснуць, – мышцы шыі. Запомніце прыемныя пачуцці, што авалодваюць вамі.

Няхай расслабяцца вашы рукі. Адчуваеце, як напружанне хвалямі скочваецца па іх і выходзіць праз пальцы з кожным выдыхам? Мышцы спіны патанаюць у спінцы крэсла, матраца, у траве. Усё глыбей, глыбей... Засяродзьце ўвагу на мышцах грудзей, яны размякчаюцца з кожным выдыхам. Мышцы жывата пазбаўляюцца напружання, яно праходзіць зверху ўніз па нагах і знікае. Цішыня. Спакой.

Такія эпізоды можна прыдумаць самім. Чым больш разнастайнасці ў практыцы рэлаксацыі, тым больш вас цягне да заняткаў.

Што здараецца, калі вы расслабленыя? Сэрца пачынае біцца павольна, дыханне становіцца больш радзейшым, актыўнасць мозгу слабее, але пры гэтым поўнасць захоўваецца магчымасць сачыць за тым, што адбываецца вакол. Дзякуючы адноснаму разнявольванню мозгу павышаецца гібкасць мыслення, ды і памяць, як правіла, не падводзіць. У стане спакою мозг больш дакладна і эфектыўна спраўляецца з загадамі, якія чалавек дасылае самому сабе.

Вось некалькі прыкладаў самаўнушэння, карысных пры здачы экзаменаў:

Я магу расслабіцца.
Я магу кантраляваць свой стан.
Я магу сканцэнтравацца на занятках.
Я магу паказаць лепшае, на што здольны.

Каб выйсці са стану расслабленасці, трэба лічыць да пяці, адчуваючы пры гэтым, як з кожнай лічбай да вас вяртаюцца бадзёрасць і энергія. Пры ліку "пяць" павольна расплюшчыце вочы і пацягніцеся.

Выконваць практыкаванні трэба два разы ў дзень па 15 хвілін на працягу 3-4 месяцаў.

Уявіце сабе шэраг сцэнак-ступеняў, якія б адлюстроўвалі ўзрастанне вашай трывогі з набліжэннем страшнага дня. Апісанне кожнай хвалюючай сітуацыі занясіце на невялічкія карткі — па адной на кожную.

КАРТКА 1. Да экзаменаў застаўся месяц. Я сяджу за сталом у сваім пакоі, праглядваю спіс заданняў, якія мне трэба выканаць, і ад думкі, што трэба пачынаць паўтарэнне матэрыялу, мне робіцца кепска.

КАРТКА 2. Два тыдні да экзаменаў. Выкладчык напамінае аб асноўных тэмах. Я ў думках прыгадваю гэтыя тэмы, яны вельмі няясныя. У пакоі – напружанне і цішыня.

КАРТКА 3. Усяго тыдзень да экзаменаў. Я гляджу на расклад на дошцы аб'яў. Пяць экзаменаў і восем дзён – не жарт! Раптам да мяне падыходзіць Джым і радасна заяўляе, што ўсе яны няцяжкія і не варта турбавацца. Джым адыходзіць і весяліцца, цяпер ужо сярод прыяцеляў. Я гэтага настрою не падзяляю.

КАРТКА 4. Раніца, дзень экзамену. Я іду па лесвіцы, шукаю патрэбны пакой. Чую ўзбуджаную гутарку. Я паглыблены ў тэмы, якія, як мне здаецца, будуць на экзамене. З трымценнем набліжаюся да аўдыторы.

Паспрабуйце падрыхтаваць прыкладна 10 асабістых картак. Калі будзеце адчуваць сябе дастаткова расслабленым, прачытайце першую картку. Прымусьце сябе ўявіць сітуацыю як мага дакладней. Калі ў нейкі момант пры будаванні сітуацыі вы адчуваеце, што нешта вас турбуе, скажыце "СТОП", уяўляючы сабе адпаведны дарожны знак. Такім чынам, загад "СТОП" будзе спыняць любую сцэну, якая вас турбуе.

Потым зрабіце глыбокі ўздых і ў момант выдыху расслабцеся, каб аднавіць роўны стан. Паўтарайце гэту сцэну да той пары, пакуль вы не зможаце ўтрымаць яе розумам 15-30 секунд пры поўным спакоі.

Засвоіўшы першую ступень, пераходзьце да наступнай карткі. І паўтарайце ўвесь працэс. Калі нейкія сітуацыі будуць для вас асабліва цяжкімі, значыць, вы зрабілі вельмі вялікі "скачок", узбіраючыся па лесвіцы трывожнасці. Падумайце аб якой-небудзь дадатковай прамежкай сцэне.

Увесь сакрэт у тым, каб звязаць рэакцыю бестурботнасці, якая асацыіруецца са словам "расслабляюся", з рознымі сцэнамі, якія ледзянаць кроў. Гэты працэс займае некалькі тыдняў. Калі ў вас іх проста няма, можна абмежавацца некалькімі хвілінамі ў дзень.



**По матэрыялах зборніка "Экзамены без стрэсу", што рыхтуецца ў выдавецтве "Прагрэс".**

